коротъком часе незбедные жидова оуплюють (Пак. Хр., 2); пред килкома лѣты длѧ Бл҃гочестіѧ за інстінктом и інстанцією незбедной ѹнітскои Апостасіи ... шлѧхетный сей мѹжъ вседѹшнѡ шѹкан быль (Сматр., 30); допѹстивъшисѧ ѡного незбедного братоѹбіѕства ... быть страпленыѕ сѹмыненѧ гризенемъ (Зб. 259, 502б); ты ли еси незбедныѕ старец названыѕ деѡнисиѕ (Зб. 752, 46).

**Незбежне** *прысл. Непазбежна.* Незбежне тогды чынѧт, которые длѧ зыскѹ и пожыткѹ дочесного, албо ласки чыей ищѹчы, албо длѧ ꙗкои дворности и оутѣхи, тотъ оурадъ бж҃ый ѡтправѹють (Навука, 85—86).

**Незбиянье** *наз. Неадмяненне, неліквідаванне.* къ суженю припала справа ... только для незбіяня и незношеня позвовъ зъ имѣня Турца и Крынокъ (АСД, IX, 121, 1628); На рокахъ судовыхъ ... припала справа ... пана Ейсимонта зъ паномъ Андреемъ ... зъ докладомъ малжонокъ ихъ, для незбияня позву (АВК, I, 319, 1646).

**Незблудный** *прым. Беспамылковы.* Неблазненный: Безпечный, незблѹдный, ꙗкѡ пѹть (Бяр., 90).

**Незбожне, несбожне** *прысл. Тое, што і* безбожне. не вѣдаешь на ꙗкого-сь мужа божого невинностью а свѧтобливостью жывота зацного руками сѧ своими торгнуль, которого-сь, хотѧ-ть ничого злого не учынилъ, незбожне горла збавил (Атыла, 211); крыжъ на церкви врobленый нехристіянски и несбожне, але знать ку потѣшѣ поганьской ... по самый жолобъ оттявши и иные речи ... одобрали (АВК, III, 16, 1582); его ... били мордовали дѹшили и незбожне ганебне на смерть тыраньске забили (КЛС, 92б, 1597); вси кнꙗжата свꙗщенническии выкрочили незбожне водлугъ всих ѡбридливостиѕ народов (Біблія, 518); костатин коли ѡн присꙗглъ реклъ если добра вѣра твоꙗ добрес присꙗглъ, если фалшиве и незбожне бг҃ъ тебе ѡ тѹю присегѹ покарает (Бельск., 271); незбожне спротивлѧють сѧ оученикѡм моимъ (Каліст, II, 226); езѹиты ... незбожне до людеѕ простшихъ потаковниковъ своих вѕ ѡгидѹ подают и преслꙗдѹют правовѣрныхъ христіанъ (Дыяр., 161); крол ... позбавилъсѧ бачеңѧ, кгды незбожне присѧг (Зб. 259, 595б); того цесар незбожне ѹважаючи по всимъ свѣте панства своего пѹстил вырокъ (Зб. 752, 60—60б); Незбожне теды некоторыи грекове вѣрили и оучили, ꙗкобы тѣло и кровь Гсда нш҃его Іс҃а Хрⷭ҇а, мѣли сѧ посщ҃ати презъ тые слова (Зб. вып., 20—20б).

**Незбожнейший** *прым. Тое, што і* безбожнейший. над лакомцѹ нѣчого нѣмаш незбожнѣйшего (Каліст, I, 36).



**Незбожникъ** *наз. Тое, што і* безбожникъ. о таковом покою незбожников мѹдрец оные слова написал (Апакр., 161б); нехай мѣсто тое зо всими незбожниками из болванами их адъ пожрет (Біблія, 39); там хитриѕ незбожник не толко сꙗ хрстиꙗнином чынил, але и праве правовѣрным се показовал (Бельск., 276); тꙗгнѹли з ним войска незбожников (Кн. Мак., 54); незбожникове зас богатствомъ и потѹгою квитнѹли (Варл., 7б); всѣхъ ѡкрѹтников и незбожниковъ злости и тиранства выполнили (Дыяр., 171); закричал терентии: занемеи незбожнику (Зб. 81, 62б); штожъ ѡного незбожника и апостату поткало (Пралог, 496); хвалилъ незбожникъ жондзѹ дш҃и своей (Выкл., 110б); тепер в ст҃ом ѡбразѣ твоемъ зновѹ тебе роспинают гсди на поганбене всѣхъ незбожников невѣрьниковъ (Зб. 82, 439б).

**Незбожность** *наз. Тое, што і* безбожность. наѹка божаѧ ѹ нихъ згинѹла, злость великаѧ и незбожность межы ихъ дѹховныхъ и чернцовъ розмножиласе (Бер. саб., 55б); в старой приповѣсти мовꙗт: ѡт незбожных выѕдет незбожность (Біблія, 344); сам се костантиѕ ариꙗнскои незбожности напил (Бельск., 272); своим всѣм подданым полꙗком длꙗ незбожности ѡмерзль (Стрыйк., 474); ѹже се была почала такъ велми ширит незбожност его (Кн. Мак., 65б); межи всѣми вѕ незбожности былъ Манасіа (Каліст, II, 257); вшелѧкою незбожностю ѡпанованы были (Мак., 95); великаꙗ се в том незбожност нн҃ѣшних нововѣрников показала (Выкл., 14); григореѕ ... мѣлъ ѡнѹю тꙗжъкѹю воѕнѹ незбожъностю поганскою (Зб. 82, 160).

**Незбожный** *прым.* **1.** *Тое, што і* безбожный *у 1 знач.* Абы есмо з незбожными людьми не розумѣли, которіи не вѣрують абы богъ свѣтъ створилъ (Будны, 116); погани незбожные и ѡбцые панствомъ владеють (Бер. саб., 53); тая церковъ тымъ незбожнымъ и заклятымъ чоловѣкомъ посквернилася не помалу (АЗР, IV, 197, 1599); Гоѳолиꙗ незбожнаꙗ и сынове еи попсовали домъ божиѕ (Біблія, 482); мало на том маючи незбожныѕ Свѣтополкъ послал на мѹромлъ, до дрѹгог брата Глѣба (Стрыйк., 453б); поразил людеѕ незбожныхъ, а иншии ѹтекли до поганов (Кн. Мак., 53б); За панованꙗ незбожнаго цесрꙗ валенса арианина великое ѹтиснене терпели правоверные (Пралог, 684); ѡное незбожное кацерство ѡбразоборство повстало (Зб. 82, 41б).

**2.** *У знач. наз. Бязбожнік; той, хто не прызнае Бога.* ꙗко на незбожных двоѧ помста, потому же и тым которыи заповедѣи

стерегуть двоѧ маеть быти заплата (Будны, 9); в старой приповѣсти мовѧт: ѡт незбожных вы[s]дет незбожность (Біблія, 344); вытрача[s] незбожных (Зб. 752, 557); чемꙋ незбожнии живꙋт вынесены сꙋт и ꙋтвержени в богатстве (Пралог, 663); несправедливые будꙋт покарани, а потомство незбожныхъ загинет (Пс. XVII, 2б).

**3.** *Бессаромны; несумленны.* не маютъ на нихъ незбожныхъ вымисловъ вымышляти (АСД, XI, 162, 1567); тотъ Нестеръ Точоновичъ, взявши передъ себе злый незбожный умыслъ и усталевавши забитье и замордованье самого себе (АВК, XVIII, 241, 1615); тотъ незъбожный учынокъ свой на него пана Рокгожынъского ... взвалившы ... в ланцухъ всадили (АВК, XX, 276, 1621); надъ небощыкомъ незбожный учынокъ попелнили (ИЮМ, VIII, 418, 1627); нѣкоторые зась незбожные и злые люди в[s] роскошахъ и щасломъ в[s] речахъ поважен[s]ю том дочасный живот[s] скончили (Варл., 66б); тѣло ее ѡнаѧ незбожнаѧ жидовка казала выкинут през мур за мѣсто (Пралог, 551); заживаютъ ихъ людіе незбожныи (Зб. вып., 57).

**Незболелый** *дзеепрым. Незбалелы, без пакут.* одинъ дрꙋгого оу себе ложе заховайте чисто и без подозренѧ: же такъ и с҃тый станъ малженскій при своей чести з[s] стороны вашей зоставати бꙋдет и вы чадородствомъ почтены, сыны сынѡвъ своих видѣти, и з[s] нихъ в[s] глꙋбокой а незболѣлой старости тѣшитисѧ оудостоите сѧ (Каліст, I, 47б).

**Незбройный** *дзеепрым.* **1.** *Няўзброены.* он[s] кажеть ижебы сынове ізраилевы могли одолети царю Навходносорови и воискомъ его людие незброинии и несилнии не ꙋмеюще бранеи (Скар. КЮ, 9); изали сѧ такъ годит на бѣлую головꙋ, слабую а незбро[s]нꙋю паненку, с таким людом збро[s]ным приходит (Зб. 752, 437б).

**2.** *Непакрыты рыцарскімі даспехамі.* с҃нве природцени кролѧ приѧмовы ... горꙋ его незброинꙋ стѧть оумыслили (Троя, 57—57б). *Параўн.* неизбройный.

**Незбудованье** *наз. Непабудаванне.* кгды се непт[у]нꙋс розгнѣвал на кролевство лаѡмедонтово ѡ незбꙋдоване собѣ костела (Бельск., 78б).

**Незбытый** *дзеепрым. Невычарпальны; пастаянны.* То хлюба правдиваѧ, то скарб[s] непожитый, то мꙋдрость не збытаѧ (Каліст, II, 342б); ѡное до сꙋдꙋ пріготоване ѡбачимо, и рѣка ѡгнистаѧ, и мꙋки незбытыи, и декрет касованю неподлеглыи (Жыц. св., 166); пыталъ его што бы былъ за чловекъ ... и так



за его пилнымъ незбытым выбадыванем мꙋсѣлъсе не запират, иж был епспомъ (Зб. 752, 499б); за его пилным и незбытым вывѣдованемъ и клѧтвою мусил сѧ не прѣти иж был епскопом (Зб. 82, 345б).

**Незважечье** *наз. Зневажэнне, знявага.* перепали есте и подъ каранье наше зъ декрету и зданья нашого, которое за собою несетъ взгарду и незваженье маестату нашого (Арх. ЮЗР, VIII—5, 358, 1606).

**Незвалченый** *дзеепрым. Неперамoжны.* Непреборимый: Незвалченый, которого нѣхто звалчити не можетъ, и перемочи (Бяр., 94).

**Незваный** *дзеепрым. Нязваны.* Азъ ... потомъ поиду пред царѧ незвана и ꙋчиню противъ заповеди его (Скар. КЕ, 10); кгды бы гост в чи[s] дом приехал незваныи (Ст. 1566 I, 89б); если его на розные мꙋки и ѡкрꙋтенство подати захочешь, теды и самъ прироженю непріѧтелем[s] сѧ ѡкажеш[s], и ѡтцем[s] болш[s], незваный, и сына оутратиш[s], который за Х҃а оумерети готовъ естъ (Варл., 302).

**Незветшалый** *дзеепрым. Несастарэлы.* Нехай же тобѣ П҃нъ подасть, за ѡминаючіе и дочасные, вѣчные: за подлеглые сказѣ, несказителные и незветшалые (Варл., 343).

**Незветяженый** *гл.* незвитяжоный

**Незвитяженный** *гл.* незвитяжоный

**Незвитяженый** *гл.* незвитяжоный

**Незвитяжный** *прым. Неперамoжны.* бачила невѣста ... его мꙋжество а незвитѧжны[s] статокъ чистосты (Пралог, 491).

**Незвитяжоный, незветяженый, незвитяженный, незвитяженый, незвитяжонный, незвытяженный, незвытяженый, незвытяжоный, низвитяжоный** *дзеепрым. Неперамoжны.* ѡни еще мают сэрцэ незвитѧжонои силы и небезпечности до вырыванѧ всѧких трудностей (Атыла, 198); оного гордого тꙋ на свѣтѣ людми не звѣтѧжоного антихріста и слꙋгъ его ... забил (Каз. Кір., 6б); крол за то ѡбѣцал дат геркꙋлесови кони незвитѧжонни и гессиѡнꙋ паннꙋ (Бельск., 79); были премoжны и незвитѧжени (Там жа, 375); все грецкое рицерство плакало по такъ мужном а низвитѧжоном рицери (Тр. гіст., 71б); превротника ѡного погоршен[s]ѧ знести могꙋтъ, еднакъже през незвитѧжонꙋю моц[s] (Мак., 222); и моц незвитѧженнаѧ, и слава вѣкꙋистаѧ, и добра его милꙋючимъ зготованые (Варл., 186); противницы богѡвъ, которыхъ естъ моцъ незвытѧженнаѧ, недолго сѧ бꙋдꙋтъ насмѣват и потѣшать (Там жа, 217); тѧ наꙋчыл

дꙋхови незвытꙗжономꙋ ѡт молитвы ꙋстанꙗ не допꙋщат (Зб. 255, 298—298б); коли еи во ѡнꙋю ꙗмꙋ пхано, сама кладꙋчы незвитꙗжоное на себе знаме креста христовоȝ, во ѡнꙋю ꙗмꙋ вскочила (Зб. 82, 55б).

**Незвоеваный, незвоеванный** *дзеепрым. Непераможны.* такій костелъ за фалшивый почитовати и ѡт него оутѣкати, а до иншого незвоеваного горноутисѧ потреба (Апакр., 157); зараз терпливост ꙋтратили ... николи незвоеванные воины (Зб. 752, 129); тыи ѧ҃, николи незвоеваныи воины (Пралог, 502).

**Незвыклый** *прым. Нязвыклы.* дорогами незвыклыми проежъдчали (КПД, 208, 1511); Беруть тежъ Радивилове часу зимы отъ приходневъ и домовниковъ ... що незвыклое по два гроши (АСД, I, 25, 1536); басурмꙗне ... абы ихъ ку подачкамъ и службомъ незвыклымъ не приневолꙗли (Ст. 1566 I, 91); будучы незвыклым ѡкрыкомъ угров на знак татарского ѡт них учыненымъ ѡбужоны, не вѣдали што бы чынить (Атыла, 174); ѡ томъ хто бы ножомъ або ꙗкимъ иным до бою незвыклым начиньемъ кого забил або ранил (Ст. 1588, 411); до иншых церемонии набоженъства ... имъ незвыклого примушають (СДГВ, II, 29, 1598); хто ... ꙗковымъ незвыклым именемъ разъ або два названъ боудетъ (Апакр., 104); шкоды незвыклые въ суседстве чынить (АВК, I, 245, 1612); мыто незвыклое ... ѡт комꙗгъ и ѡт човнов на волын и з волынꙗ рекою стыром идꙋчых на мещанех пинских вытегал (ККСС, 54, 1615); ѡгонь вѣтромъ незвыклымъ роспорошилъ (Пралог, 621).

**Незвытяженный** *гл.* незвитяжоный

**Незвытяженый** *гл.* незвитяжоный

**Незвытяжоный** *гл.* незвитяжоный

**Незвычайне** *прысл. Незвычайна.* Цесаръ палеолоȝ на синодѣ ... незвычаине маршалковалъ (Апакр., 54).

**Незвычайный** *прым.* **1.** *Асаблівы; не такі, як заўсёды.* люди одинъ другому такіи записы незъвычайные даивали (КЗ, 408, 1486); убачили есмо великую шкоду и переказу мыта нашого Ковенского, для многихъ дорогъ, которые суть незвычайные по земли Жомойтской положены (АЗР, II, 366, 1540); твоя бы милость зъ мѣстца своего воеводства Виленского приказалъ, абы они ... оного торгового незвычайного, чого передъ тымъ не бывало, не брали (АВК, VIII, 251, 1550); до выправован[s]ѧ поселствъ, а злаща такъ незвычайныхъ было потребно (Апакр., 41); гуси и лебедѣ, крылми плещучи, незвычайную грозу подавали (Мам., 182); Дивнаѧ и незвычайнаѧ была Іѡаннова



проповѣдь (Каліст, II, 277б); выкупил его з тои тꙗжкои а незвыча[s]ной емꙋ роботы (Пралог, 489); Не меншъ и то належытъ до порадку, абы въ покупованю збожа одинъ другому, на мейстцахъ незвычайныхъ, не чинилъ перешкоды (ИЮМ, X, 299, 1660).

**2.** *Выключны.* незвычайное дивовиско было (Варл., 34б); темъные ѡные мѣ[s]сца незвыча[s]ною ѡною свѣтлостию ѡсвецают (Зб. 259, 6б); мꙋхи незвычайныи въ оуста его влетѣвши, поты рожныи болести задавали (Зб. вып., 23).

**Незвязаный** *дзеепрым. Нязвязаны.* которы тотъ подданый пна воеводин, самъ добровольне незвязаный, ани битый, ехал (АВК, XXXVI, 165, 1582).

**Незвянулый** *дзеепрым. Незавялы.* Реклъ зась до него Варлаам[s]: Бл҃гословеный Бг҃ъ Оц҃ъ Гсда нашего Іс҃ Хаۨ, которій ведлꙋгъ великого млсрдіѧ своего ѡтродилъ тебе к[s] надѣи живой и дѣлицствꙋ несказителномꙋ и незвѧнꙋломꙋ захованомꙋ на нб҃ѣ в[s] Хѣ Іс҃ѣ Гд҃ѣ нашомъ през Дх҃а ст҃го (Варл., 168).

**Незгажаючийся, незгожаючийся** *дзеепрым. Які не згаджаецца з чым-н.* бжственым[s] Еѵглистѡмъ ꙗкобы сѧ з[s] собою незгожаючимъ и противнымъ, примовлѧют[s] (Каліст, II, 32); жебы в[s] начинѧхъ Бж҃іхъ албо дх҃овномъ оуслꙋгованю, маючи свою з ласкою незгажаючꙋюсѧ волю, ѡколо начинѧ Бозского и в[s] дх҃овномъ оуслꙋгованю не поблꙋдила (Мак., 128).

**Незгараемый** *дзеепрым. Незгаральны.* мо[s]се[s] самъ видилъ кꙋпнинꙋ горꙗщꙋю а незгараемꙋю (Дыяр., 165).

**Незглагалный** *дзеепрым. Тое, што і* неизглаголанный. нн҃ѣ прехвалнаꙗ и незглагалнаꙗ таина намъ грѣшным даетсѧ (Чэцця, 162б).

**Незглажоный** *дзеепрым. Непазбыўны.* милости ку тобе знак незглажоны[s] на тѣле своем выразил (Зб. 255, 303б—304).

**Незгода** *наз. Нязгода; сварка; разлад.* жилове межи собою незгоду або сваръ почали (АЗР, I, 24, 1388); розсеваеть межи братии незгоды (Скар. ПС, 12б); за частою незъгодою а немилостью въ малженстве нашомъ ... въ малженстве быты [!] не можемъ (АВК, XVII, 414, 1557); которые прибудꙋть в незгоде (Ст. 1588, 126); Трвала незгода кгрецкого ѡтщепенства ажъ до соборꙋ флерентеиского (Бер. саб., 43); розным розꙋменьем и незгодою речь в[s] споръ пришла (Апакр., 30); промежи ними была силнаѧ и великаѧ незгода и посварокъ (Барк., 169б); Ты межи покорными людми завжды незгодꙋ розсѣваешъ (Алекс., 33); Обачтесяжъ и вы, што въ церкви Божой незгоды сѣете

(Гарм., 189); сваровъ незгодъ пилно се выстерегали (Зб. 259, 477б). *Параўн.* неизгода.

**Незгодливе** *прысл. Незгадліва.* Инодшънѡ, єдино вси: Всѣ сполне ... всѣ згодливе, незгодливе (Бяр., 58).

**Незгодливый** *прым. Незгадлівы.* умоцованый стороны обжалованое повѣдилъ оповѣданье на врадѣ съ позвомъ быть незгодливое, а то въ томъ же дей на врадника оповѣдано (АВК, II, 277, 1590); Што-же-сь тутъ розного и незгодливого межи нами и вами усмотрѣлъ (Пыт., 12); народ хрстиꙗнскиˢ вˢ вѣре незгодливыˢ (Бельск., 325б); панъ Гридичъ пана Сирутя на тые рочки октябровые ... позывалъ незгодливый (АВК, I, 249, 1612); Инодшныи: Единомыслныи ... згодный , албо инакшого оумыслȣ, незгодливыи (Бяр., 58).

**Незгодность** *наз. Нязгоднасць; адсутнасць адзінства.* акторка домовлялась, взглядомъ незгодности словъ и речы, повторе абы были дани обадва на пробу (ИЮМ, IX, 340, 1638).

**Незгодный** *прым.* **1.** *Нязгодны.* длѧ такъ великей розности и незгоды и незгодных людей силы ѡт патриꙗрхи фомы и ѡт попа ꙗна ѡт блоудовъ не можемь ѡтозваны албо ѡтволаны быти (Валх., 68б); Богданъ ... а жона его ... по тые чсы в ростырку и въ незгодномъ стане малженском мешъкали (АВК, XXXIX, 11, 1578); рекъ вм҃ разъ, же шкода с христіаны незгодными вˢ згодоу встоуповати (Апакр., 2б); ест великаꙗ трȣдност з незгодных лѣтописцов и кроˢникаров (Стрыйк., 468б); они жъ незгодного мешканя шлюбу брати не хотели и зъ малженства се доброволне розъвели (ИЮМ, VIII, 346, 1617); Потом з писма грецкого писмо латинское въ всем з грецким згодное ѡпроч в нѣкоторых словах и назвысках словных ꙗкбы незгодное стало (Дыяр., 170); ничого ȣ нас противного и незгодного не есть (Зб. 752, 515б); иншихъ гисториков ст҃ых писанꙗ сȣт в том незгодное (Выкл., 29).

**2.** *У знач. наз. Той, хто знаходзіцца ў разладзе, сварцы.* также и тот дель вечне при моцы зоставати маеть которыˢ межы незгодными с права сказанъ и врадовне постановенъ будеть (Ст. 1588, 374); грехъ незгодные еднать (Бер. саб., 10б); таꙗ дѣва всих ласкаве приˢмовала, тешыла ȣтрапеные, погажала незгодные (Зб. 255, 348); так поˢди вставшы до ѡных незгодных, а не кажы им сꙗ роздѣлꙗти, а ни сꙗ ѡ тое сварити (Зб. 752, 515б).

**Незгожаючийся** *гл.* незгажаючийся

**Незгожий** *прым. Непрыдатны.* Тѧжаръ земли незгожій, хлѣбы дармо псȣемъ, ѡт жалости ѡт болю теперъ тебе чȣемъ (Лям., 10).



**Незграбный** *прым. Нязграбны.* Весскіа: Лȣкавыѧ, незграбныѧ (Бяр., 256).

**Незданье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* здати ў 1 *знач. з адмоўным значэннем.* Справа щастномȣ роговъскомȣ зъ ꙗкȣбомъ рывоцъкимъ ѡ незданье ѡпеки (КВС, 602, 1552).

**Нездержанье, нездержание** *наз. Невыкананне; незахаванне.* пришлобъ имъ которому объ тое нездержанье сего дѣла тегати се, тогды князи Глинскіе другіе маютъ ихъ о тое судить (АВК, XIII, 14, 1508); Справа Семенȣ Жабе зъ боꙗриномъ Вилькомирскимъ ꙗкȣбомъ ѡ заплаченье сȣмы, присȣжоное на немъ за нездержаньемъ еднанья (КСД, 834, 1514); Справа Степановоˢ ȣльꙗне ... ѡ нездержанье делȣ в ыˢменꙗх (КВС, 477, 1552); практіками и нездержаніем правды а потом кгвалтомъ всѣх аж до конца зводити бȣдетъ (Каз. Кір., 72); Ѡхȣс ... потом рыхло ѡт своего гетмана забит длꙗ нездержанꙗ вѣри албо шлюбȣ (Бельск., 164—164б).

**Нездержаючий** *дзеепрым. Які нешта не захаваў або не выканаў.* уже господару его милости судити и сего дѣлу нездержаючого подлугъ тое заруки карати (АВК, XIII, 14, 1508).

**Нездолность** *наз. Нядольнасць.* нездолности моей а не нехȣти причтено ѡт неи бȣдетъ (Сматр., 15); Часȣ оного нездолность мнѡгимъ до оулѣченѧ телесной хоробы перешкодою была (Каліст, I, 123); ꙗ пришолемъ ѡт иншей хоробы оулѣчитисѧ, а ты иншȣю лѣчишъ, охилѧнье сѧ то и вымовка неможности, а покрыванˢе нездолности, невидомыи грѣхи ѡтпȣскати: а видомои хоробы не лѣчити (Каліст, II, 34).

**Нездолный** *прым. Нядольны.* ѡт недостатных и нездолныхъ, самȣю волю и хȣть сердечнȣю пріймȣетъ Гдь за оучинокъ (Каліст, I, 25б).

**Нездоровый** *прым.* **1.** *Нездаровы.* жона нездоровѧ кровоточиваꙗ вдѣлала вѣроу емоу (Чэцця, 114б); абы резники быдла нездороваго на мясо не били ани продавали (СДГВ, 57, 1536); короткостью вправдѣ покарму нездоровую ѡбжирства встесклость згола трапꙗчи и до ѡного през неꙗдене взываючи: молчи занѣмѣˢ (Пралог, 558б).

**2.** *У знач. наз. Нездаровы.* Длѧ того оу васъ мнѡго хорыхъ и нездоровыхъ, а мнѡгіи и померли (Каліст, II, 35).

**Нездоровье** *наз. Нездароўе.* Дмитръ Сапега ... почалъ на мене бити, хотечи мене о нездоровье або о легкость приправити (АВК, XXI, 71, 1555); если бы который прихожый убогій ... яки трондъ и трутизну собе мелъ, а другихъ бы людей тако-

вымъ злымъ нездоровемъ своимъ заражалъ, тогды такового прымовати не маютъ (ИЮМ, VIII, 369, 1621). *Параўн.* нездровье.

**Нездрабованый** *дзеепрым. Які не страціў важнасці, сур'ёзнасці.* позваный кнежа ... ничимъ позву не буречи, але на скуточную розправу, кромъ всякихъ заходячыхъ звлокъ, обеимъ сторонамъ обороны вцале заховавшы, яко въ нездрабованой справе, до суду належного послалъ (АВК, I, 192, 1664).

**Нездровье** *наз. Тое, што і* нездоровье. Тимошевичъ, пришедчи до мене на рынокъ, оповедалъ и похвалки чинилъ, хотячи мене о нездровье и о легкость [при]правити (АВК, XXI, 236, 1556—1557).

**Нездыхаючий** *дзеепрым. Нездыхаючы.* Што*ж* мы тогды почнемо многими грѣхами обтѧженныи, ꙗкъ окрѹтныхъ мѹкъ, темности остатней, зѹбѡвъ скрита*нѧ* [!] непереставаючого, вѧзе*нѧ* вѣчного, червій нездыхаючихъ, огнѧ негаснѹчого, смѹткѡвъ, тѣсноты, горкости, болевъ и оуставѣчного вздыха*нѧ* (Каліст, I, 21б).

**Неземный** *прым. Незямны.* господ света неземного царства ище*т* которы[s] дае*т* вечно ѹчы се ѡ*т*туль ꙗко далеко милос*т* непора*д*наꙗ заходи*т* (Зб. 255, 143б).

**Незижително** *прысл. Не так, як пад уладай тварца (Бога).* не толико людем[s] но и ското*м* было незижителъно вовѣки (Скар. КЕ, 25б).

**Незказителный** *гл.* несказительный

**Незламаный** *дзеепрым. Незламаны.* Слѹжбѹ Бж҃ѹю ѡ*т*правовати можетъ Іерей ... на олтарѹ цалымъ, незламаномъ (Зб. вып., 30).

**Незле** *прысл. Няблага.* тамъ же ѹ варшове в року ҂афп (1580) стычнꙗ аі (11) згорело на*д* пре*д*замчу е҃ (5) домо*в* га[s]дуки и ве*нк*грове незле бронили и не подле[s] рабовали (Еўл., 23).

**Незлечоный** *дзеепрым. Невылечны.* много незлѣчоных немочи[s] лю*д*ских ѹже не зе*л*емъ анѣ ѡбтеками [!] ... х*с*вою рѹкою и чудами лѣчечи (Зб. 82, 124б); з тѣла ст҃го слѣпие прозирали и на розмаитые а нѣзлѣчоные хоробы люди здоровъе брали (Там жа, 275б).

**Незличенный** *гл.* незличоный

**Незличеный** *гл.* незличоный

**Незличоно, незличоне** *прысл. Незлічона.* коли смотримо в небо звѣзды незличоно ꙗсънѣючое сло*н*це те*ж* ве*л*ми сиꙗючое (Бельск., 179); тѹтъ стократнѹю нагородѹ пріймѹючи, а та*м* непоровнане и незличоне мнѡжшѹю и болшѹю заплатѹ (Каліст, II, 343б—344); незличоно вызна*в*цо*в* хри*с*товых помо*р*довалъ (Зб. 82, 193).

**Незличоный, незличенный, незличеный** *дзеепрым. Незлічоны.* простота котораа завше есть одна, обачона до кривости хотѧй незлѣчоных, латвого постережен*ѧ* есть ба*р*зо певны*м* инструментомъ (Апакр., 8); ꙗко саранча вси мѣстца напо*л*нила незличонаꙗ великость людеи и ве*л*блюдо*в* (Біблія, 122); были на ѡномъ полю незличоныи деревка (Алекс., 36б); незличоные чуда и добродѣйства чинилъ (Пыт., 9); вкравшы ... боты козловые, новые, шубка белинная повшедная, платя белого незличоная речъ; тые вси речы все продалъ (ИЮМ, VIII, 282, 1609); иншыи незлѣчоныи добродѣйства твои славити и хвалити бѹдемо нн҃ѣ (Сматр., 54); длѧ предивного и бозского его живота и незличе*н*ныхъ чѹдовъ, зарост[s]ю и гнѣвомъ бѹдѹчи порѹшены ... на смерт[s] ѡсѹдили (Варл., 55—55б); кгды тое насѣ*н*е на добро[s] роли се*р*ца своег посее*т* ... незличоные пожи*т*ки ѹрост*ѹт* (Зб. 259, 175); незличоны[s] поче*т* хрстиꙗнъ в то[s] часъ погубили макгове (Пралог, 601). *Параўн.* несличоный.

**Незлобиве** *прысл. Незласліва, лагодна.* Кто ходить незлобиве сеи спасенъ будеть (Скар. ПС, 43).

**Незлобивый** *прым.* **1.** *Незласлівы; лагодны.* хсъ до нас незлобивъ и негневливъ (Чэцця, 139); Таковъ нам подобаше первосщ҃нникъ, преподобенъ, незлобивъ, бескверненъ, и ѡ*т*лученъ ѡ*т* грѣшникъ (Будны, 127б); Оупережаетъ незлобивый чл҃вколюбец[s] (Каліст, I, 16); Акакій: Незлобивы*и*, простый отваристый, щедрый (Бяр., 225).

**2.** *У знач. наз. Незласлівы чалавек.* Кто прельщаеть праведныхъ на пѹти зломъ, сеи в погибели своеи падеть и незлобивыи владети будуть добромъ его (Скар. ПС, 42б).

**Незлобие** *наз. Адсутнасць злобы; дабрыня.* в самыхъ мнимых хрістіѧне*х* любовъ высыхает[s], щирость и незлобіе оскѹдѣваетъ (Карп., 7б); незлобію оучитъ насъ Гдь҃ (Каліст, I, 30б).

**Незлопомнение** *наз. Незлапамятнасць.* Взглѧдомъ абовѣмъ незлопомнѣніа и добрый а незлобивый Гдь҃ нашъ Іс҃ Хс҃ Законъ намъ положилъ (Каліст, I, 30б).

**Незлореченство** *наз. Незламоўнасць.* ѹважа[s] ижъ Хсс незлоре*ч*е*н*ство за злоречен*с*тво ѡ*т*даеть (Зб. 255, 14).

**Незлосливый, незлостливый** *прым. Незласлівы.* мужъ ... незлосливы[s] а боꙗчийсꙗ бога (Біблія, 79); Беззлобивый: Невинный, незлостливый, щирый (Бяр., 2); мѹжь счирый а простый незлосливый (Хран., 56). *Параўн.* незлостивый.

**Незлостивость** *наз. Незласлівасць.* Незлобіе: Незлостивость, щираа доброть (Бяр., 92).

**Незлостивый** *прым. Тое, што і* незлосливый. Незлобивъ: Незлостивъ (Бяр., 92).

**Незлостливый** *гл.* незлосливый

**Незмазаный, незмазанный** *дзеепрым. Незапэцканы.* который позовъ воткнул есми у ворота оного двора Дорогозского нескробаный незмазаный (АВК, XXXVI, 75, 1582); бȣде*т* ти незмазанаѧ шата (Каз. Кір., 160б); чист*ȣ*ю ȣже и ѡфѣрою диѩвол*скою* незмазанȣю живно*ст*, до мѣста привози*т* допȣсти*л* (Бельск., 279—279б); чистымъ и незмазанымъ естъ (Мак., 180); всѧ ѡнаѧ краина ѡ*т* те*м*ности и зведе*н*ѧ діавол*ского* оуволнѧласѧ, а хрстіѧ*н*скои вѣры неподозрѣнноп и незмаза*н*нои свѣтлостю ѡсвечаласѧ (Варл., 307); петно албо цехȣ на дши незмазанȣю чинѧтъ (Дзід., 4); богъ тво[s] чи*с*тыхъ дȣшъ праг*н*е, и тѣла чы*с*тые и незмазаныи мил*ȣ*е (Зб. 82, 15).

**Незмекчоный** *дзеепрым. // перан. Нязмякчаны.* Проклѧта запал*ч*ивость и*х* ижь оупорна: а гнѣвъ ихъ ижь незмекчоны*и* (Хран., 76).

**Незмененый** *дзеепрым. Нязменены.* вид*ѣ*л есь и того*с* се покуша*л*, чого бы чл҃вкъ телесны[s] не смѣ*л* се покуси*т*, а длѩ того великии а незмененыи дѩки даваю всего ѡкрȣгу свѣта створителеви (Алекс., 43б). *Параўн.* неизмененый.

**Незмененье** *наз. Незмяненне.* за таковымъ незмененьемъ ихъ оное комяги, чольновъ и гребцовъ оный посолъ ... на тых же статках тыми жъ гребцами до Киева заехалъ (Пін., 109, 1555).

**Незменный** *прым. Нязменны.* Тѣло его долъ земны*и* покриваетъ, незмѣнъны*и* квѣтокъ Дȣши оу Бг҃а (Лям., 27); при ѡ*д*ной незмѣнной сторонѣ правдивыхъ хвал*ц*овъ Бж҃іхъ за вѣрȣ и Це*р*ковь, застановлѧет[s]сѧ (Мак., 4б).

**Незмеркаючий** *дзеепрым. Які не гасне.* об[s]ѧснен*е* дȣшамъ побожнымъ себе житіемъ здобѧчимъ, и на завита*н*е незмеркаючеи сеи справедливого оного сл҃нца свѣтлости гот*ȣ*ючи*м* (Каліст, II, 187б). *Параўн.* незмеркаючийся.

**Незмеркаючийся** *дзеепрым. Тое, што і* незмеркаючий. Свѣтлости вѣры заповѣдій Хв҃ыхъ наслѣдȣймо ... до свѣтлости вѣчнои незмеркаючеи сѧ и негинȣчеи мѣймо сѧ (Каліст, I, 172).

**Незмерне** *прысл. Непамерна, нязмерна.* збогати*л*сѩ ѡ*н* чл҃вкъ незмѣ*р*не (Біблія, 68); чернцомъ незмѣрне великія крывды ... починилъ и чинитъ (АСД, IX, 122, 1628); таѩ новина незме*р*не потешна, и такъ вдѩчна е[s] была (Зб. 255, 349); сегодн҃ѩ незмѣрне фрасȣе*т*сѩ (Зб. 259, 634); збогатилсѧ Іаковъ незмѣрнѣ, и мѣлъ чередъ многѡ (Хран., 47); чл҃къ немало што, але незмѣрне есть менши*и*, нижли бг҃ъ (Выкл., 109б).

**Незмерность** *наз. Нязмернасць; неабдымнасць.* едина то*л*ко натура бозства та*к* же те*ж* и*ж* едина е*ст* всих трех перъсо*н* всего мощность ... незмерно*ст*, мае*с*та*т*, хвала, розȣмъ, волѩ, мȣдро*ст*, добро*т* (Зб. 255, 73б).

**Незмерный, незьмерный** *прым. Нязмерны.* котораѧ и кȣ незьме*р*ном*ȣ* добрȣ всего народ*ȣ* нашого и кȣ славе вашеи милости самого и вечъномȣ спасенью пожыто*ч*наѧ бȣдеть (Унія, 2); Кази*м*и*р* збро[s]ною рȣкою до Рȣси вторгнȣвши ... зе*м*ли ѡпанова*л* ѡ*т*ку*л* ска*р*бы незме*р*ныи вынеслъ (Стрыйк., 614б); шкоды незмѣ*р*ные рим*л*ѧно*м* дѣла*л* (Рым., 79б); видѣла незмѣрный жал[s] и смȣтокъ въ Іерȣсалимѣ (Карп., 48); длѧ незмѣрного его милосердіа нар*ѡ*д людскій з[s] неволѣ бѣсовской вызволилъ (Каліст, II, 213—213б); Незмѣрныхъ бога*т*ствъ достȣпили братіѧ наши живȣчіи на земли (Мак., 171); ѡблюбе*н*ца незмѣрънаѩ мило*ст* до того ма*л*же*н*ства побȣдила (Зб. 259, 205); незмѣ*р*нымъ гнѣво*м* запалены[s], каза*л* пере*д* собою ста*т* вси*м* ѡнымъ товарышо*м* его (Зб. 752, 465—465б); кони те*ж* и возы незмѣрной личбы (Хран., 167б); прыше*д*шы до мене два мужа и *вз*ѩвъшы не*с*ли мене в незмернȣю высоко*ст* (Зб. 82, 21б). *Параўн.* незмероный, незмирный.

**Незмероный** *прым. Тое, што і* незмерный. Срдце чл҃чее незмѣронȣю глȣбокость маетъ (Мак., 148); ди*в*ными способы збавите*л* з своее не*з*мероное ла*с*кавости се*р*це июлино змекчы*т* ȣсилова*л* (Зб. 255, 245).

**Незмешаный** *дзеепрым. Нязмешаны.* ѩко балсамъ незмешаныи запахъ мои (Скар. 1С, 39б); Кланѧтисѧ ѡ*т*цȣ, и Сн҃ȣ, и ст҃омȣ Дх҃ȣ. Тройци нероздѣлной и незмѣшаной персонами, тылко едностю бозства (Кін., 61б).

**Незмилование** *наз. Нялітасцівасць.* Лако*м*ства вѣтвіе. Скȣпость, незмилованіе, татба, драпѣжство, симоніѧ, лихва, здрада, ѡшȣка*н*е, даремнаѧ клѧтва, кривоприсѧганіе, неспокойность, кла*м*ство (Навука, 55).

**Незмирный** *прым. Тое, што і* незмерный. кгды жъ га*р*дость е*ст* незми*р*на мило*ст* чти часомъ тежъ подъ кшталтомъ взга*р*же*н*ѩ, гоноровъ крие*т*сѩ (Зб. 259, 341б); коли на такое мȣже*ст*во погане смо*т*рѣли незми*р*ны*м* подиве*н*емъ здȣмѣвалисѩ (Зб. 752, 556б).

**Незмовный** *дзеепрым. Які не абумоўлены дагаворам.* ее милость пани Мелешковая квитацію отъ его милости пана Тыш-

кевича ... и другихъ особъ одерживать мѣла, кгдыбы справедливымъ и незмовнымъ способомъ тые декрета держаны быть мѣли (АВК, XV, 28, 1645).

**Незмога** *наз. Немажлівасць.* Не вымовлѧймо сѧ прето неꙋкою, простацством, невѣдомостсю, и незмогою (Каліст, II, 250б).

**Незможне** *прысл. Немагчыма.* тꙋю гисторію хто бꙋдеть хотѣти незможне считати або еѕ вѣры ꙋвлачат, мы еи маемо ѡт светыхъ ѡтцовъ на седмом конъцилиꙋмъ давно потверженꙋю (Зб. 107, 206).

**Незмоклый** *дзеепрым. Нязмоклы.* Анꙋрій: Высокій, або незмоклый (Бяр., 232—233).

**Незмоченый** *дзеепрым. Ненамочаны.* ꙗко плевы вержены к верху на ветръ и мелъ незмоченыи высꙋтыи на ветръ не останути вкупе, тако и срдце страшливое въ мышлении безумнаго противу громоту боꙗзни не постоить (Скар. ІС, 35б).

**Незмышлене** *прысл. Несфабрыкавана; нефальшыва.* достоеньства и врꙗды всꙗкие мають быти даваны добре значнымъ, и правдиве незмышлене в томъ воеводстве або повете ѡселымъ (Ст. 1588, 79). *Параўн.* незмышлоне.

**Незмышленый, незмышленный** *дзеепрым. Нявыдуманы; нефальшывы.* мы з ласки бжее вѣдаемо, маючи и по сесь часъ власные правдивые незмышленые листы его в рꙋках, вѕ которыхъ оумыслъне пишетѕ противко того (Апакр., 106); том квитъ на преречонꙋю сꙋмꙋ ... правдивыѕ и незмышленыѕ естъ (ККСС, 72б, 1615); Конецъ приказаньѧ естъ, любовь зѕ широгѡ срдца, и сꙋмнѣньѧ доброгѡ, и вѣри незмышленой (Мак., 260); помнꙗчи на ... вѣрꙋ котораꙗ в тобѣ ест незмышленаꙗ (Зб. 752, 492); покорою незмышленною каждому сꙗ понижал (Пралог, 575—575б).

**Незмышлоне** *прысл. Тое, што і* незмышлене. што ест правдивост, што ѡн незмышлоне воскреснꙋл не ꙗк геретики нѣкоторые мовꙗт (Зб. 261, 140б).

**Незнаемость** *наз. Няведанне; нявер'е.* мнѡгіе ѡт прилеглых нарѡды, блꙋдомъ недовѣрства и незнаемостю Бга бꙋдꙋчи зараженые, презъ знаки, котѡрые сѧ при гробѣ ихъ ставали, до вѣры приступили (Варл., 361б—362).

**Незнаемый, незнаіомый** *прым.* **1.** *Незнаёмы.* до иных зємль и королевствъ незнаемых пришли (Валх., 48б); незнаемыхъ не приимовали суть гостеи (Скар. ПБ, 30); неякий гост незнаіомый ... казал шинкару моему собе напитку давати (АВК, XXXVI, 1—2, 1582); тотъ дей листъ пана Рудоминовъ не незнаемымъ и не закрытымъ письмомъ есть написанъ, але яснымъ и явнымъ (АВК, VIII, 447, 1588); свое писма черезъ ѡсобъ легкихъ незнаемых подаютъ (Унія, 4б); татарове ... таемнии и незнаемы так греком, ꙗко и латинником мешкали (Стрыйк., 488); есть тутъ у месте Могилевскомъ таковыхъ убогихъ прихожыхъ знаемыхъ и незнаемыхъ не мало (ИЮМ, VIII, 368, 1621); пустилсꙗ в незнаемую дорогу на мѣста пустые (Пралог, 510).

**2.** *У знач. наз. Незнаёмы, незнаёмец.* Русинъ коли есть унѣятъ, и напередъ у незнаемыхъ пытаютъ, если Полякъ, чи есть католикъ, а если Русинъ, чи есть уніятъ (АЗР, IV, 229, 1600—1605); взгорженых и незнаемыхъ такъ выносѧчи, же вси имъ почесть выражати мꙋсѧтъ (Варл., 122); коли еднакъ до того мѣста пришли два незнаіомыи Іерее, мыслѣла имъ ꙗко незнаіомымъ высповѣдати сѧ (Зб. вып., 41б—42). *Параўн.* незнакомый *у 1 знач.*

**Незнакомитый** *прым. Невядомы.* ѡлѣксѣюс реклъ сам оу собе оу домꙋ ѡца моего незнакомитъ боудоу мешкати (Жыц. Ал., 98).

**Незнакомый** *прым.* **1.** *Тое, што і* незнаемый *у 2 знач.* не оумноживаи говорити с ними ꙗвно, а ѡ всем потаи, ани с жадным честником или гостем, или з незнакомым (Арыст., 169).

**2.** *Малапрыкметны.* влас их мал и тонок. и хворъ, а жилы глꙋбоки и соуставы незнакомыи и тоучныи лона их много (Арыст., 184).

**Незнатье** *наз. Няведанне.* обжаловали были мещанина государьского Могилевского Созона Гридковича, за которою же в том причинцою и певным шкодником не есть незнатемъ а сам третей его за присегу взятемъ з ураду зложон был рок на ден сегоднешний (ИЮМ, XXXII, 92, 1578).

**Незначне, незначно** *прысл. Непрыкметна.* где бы котораѧ река граничьнаѧ на чиѕ берегъ песокъ незначне сыплючи прибавокъ чинила, тот прибавокъ маеть быти того пана чыѕ берегъ есть (Ст. 1588, 367); которомоу молчанье и поблажанье вмѕ барзо хотѧ незначне заважаетъ (Апакр., 219б); взꙗвши Подкова тыи листы приехал з ними до барꙋ незначне и ѡтдал их старосте з которым теж и далшꙋю розмовꙋ таемнꙋю мѣл (Стрыйк., 631б); гвоздꙑ ... на ѡноѕ дорозѣ, которою бѣжат мѣли, скрите и незначне в землю понабивал (Хр. польск., 3); незначне подростаючи, великимѕ сѧ наконецъ ставаетѕ (Варл., 171); сꙋплика ... незначне в карету ѣдꙋчомꙋ с подꙗздова дворꙋ

до за*м*кȣ ва*р*шавского ѡ*д*лана (Дыяр., 168б); в вифлеемѣ незна*ч*не и ȣбого роди*л* (Зб. 752, 527б); то$^s$ по до*л*го$^s$ покутѣ ... бы*л* ȣздоровлен и ѡное спросное привидѣ*н*е незначно згинуло (Пралог, 586б); зстȣпилъ хсс гдь в живо*т* паненски*и* незначне и без$^s$ сказы, ꙗко дождъ на во*л*нȣ (Выкл., 133).

**Незначный** *прым. Непрыкметны; нявідны.* коли бы в которо*м* тэстаме*н*те ꙗки*м* незна*ч*ны*м* а*л*бо закриты*м* писмо*м* которы$^s$ а*р*тыку*л* в ни*м* былъ написанъ (Ст. 1566, 88б); также и двоѧкій прихо*д*, едінъ незначны*и*, а дрȣгій который маетъ быти (Каз. Кір., 2б); Москва замо*к* часо*в* недавны*х* то*л*ко з дерева зробленых$^s$ бы*л* и незначны$^s$ (Стрыйк., 431б); Та*м* ѡди*н* просты$^s$ и хȣды$^s$ а незначны$^s$ жо*л*не*р* по*д*нꙗвши Болеслава з$^s$ землѣ на конꙗ своег всади*л* (Там жа, 475б); по то$^s$ сȣплици ли*ст* мнѣ до тȣ*р*мы ѡ*д* незна*ч*нои ѡсобы на имꙗ Михаила пословенску писаны$^s$ ѡ*д*дано (Дыяр., 168б); ȣже есми бы*л* ȣмысли*л* ȣтѣкати з скитȣ, а по$^s$ти где в мѣстца незна*ч*ныи и тамъ ... мешка*т* (Зб. 752, 562б); по сме*р*ти григориꙗ стого зашолъ на краины далекие и праве незначные поди$^s$муючи трȣды и працы великие (Пралог, 601б); бы*л* ȣмыслилъ ... по$^s$ти где в мѣстца незначныи и та*м* або вшетечне або жонȣ понѧвши ме*ш*ка*т* (Зб. 82, 407).

**Незневоленый** *дзеепрым. Незняволены; свабодны.* Постановилъ незневоленый сесь мȣж$^s$ сонъ звитѧжити (Мак., 14б).

**Незневоленье** *наз. Свабода.* Безстрастіе: Нетерпленье, незневоленье ѡ*т* афектѡвъ (Бяр., 2—3).

**Незносне** *гл.* незносно

**Незноснейший** *прым., выш. ст. ад* незносный. за*ж*бы то незноснѣйша, по*д*писȣ на злоую речъ неоуважне оучиненого ѡ*т*стȣпити, ни*ж* присѧгȣ при хиротоніи патріарсѣ своемȣ оучиненȣю з мнѡго канѡновъ црквных зкгвалтити ꙗко дрȣгіе оучинили (Апакр., 87б); К тому ȣва*ж* што е*ст* не*н*дзне$^s$шого на*д* невестȣ родꙗщȣю што за боле*ст* незносне$^s$шаꙗ (Зб. 255, 425).

**Незносно, незносне** *прысл. Невыносна.* Ѡкрȣтны$^s$ тира*н* где широко его и незносно стокро*т* тира*н*ство до*л*гими словы выводи*т* поча*л* (Стрыйк., 473б—474); если то нам$^s$ незносно быти здастсѧ, ино за спол҄ъȣчастники ихъ до своей маетности пріймѣмо (Каліст, II, 185б); морду надъ девчинами тымъ млоденьцомъ допущовала содомъского, Богу незносне брыдкого и людемъ мерзкого (ИЮМ, IX, 293, 1637); ѡцъ ... незносне жалостю знꙗты$^s$ и с плаче*м* велики*м* волосы на собѣ торга*л* (Зб. 752, 20б).



**Незносный, незностный** *прым. Невыносны.* жалобы и обътяжливости многокроть прыходять до его кролевъскей милости отъ княжатъ, панятъ и отъ земянъ пограничъныхъ о кривъдахъ ихъ незносныхъ (КПД, 149, 1547); ему се стала ... великая и незносная шъкода и спаленье в дому его (АВК, XVIII, 46, 1582); подданым Першайским, незностные морды ... своволне а упорне почынили (АВК, XXXI, 241, 1595); гаковый неслыханый и незносный кгвалтъ вчинили (АВК, VIII, 32, 1598); кнꙗз иго*р* на древꙗны, да*н* великȣю и незноснȣю взложи*л* (Стрыйк., 439б); та*м* великій и незносный на добрыи оучинки голо*д* (Каліст, I, 12—12б); о починенье шкодъ незносныхъ подданымъ волости Глуское ... описано и доложоно есть (АСД, I, 256, 1617); незноснȣю войнȣ противко ни*х* подносилъ (Варл., 7); кривдȣ незносную мае*м* (Дыяр., 161); великии и незноснии надъ нимъ ѡкрȣте*н*ства чинили (Пралог, 589).

**Незношенье** *наз. Неадмяненне; нескасаванне.* врадъ въ той справе ... для незношеня позвовъ зъ докладомъ малжонокъ ихъ ... за двоима по нихъ позвы менечы о бите и зранене едучому (АВК, I, 321, 1641); только для незношеня позвовъ доложоною ... на жалобу его м. отца митрополиты отповѣдать наказали есмо (АСД, IX, 122, 1678); съ порадку реестрового къ суженю припала справа ... только для незбіяня и незношеня позвовъ зъ имѣня Турца и Крынокъ (Там жа, 121).

**Незный** *гл.* недзный

**Незомщоный** *дзеепрым. Неадпомшчаны; непакараны.* бог, которыи цноты и чыстости боронить, того твоего скваплывого а незбожного учынку за моею послугою незомщоного не пустить (Атыла, 211).

**Незоплаченье** *гл.* незаплаченье

**Незопсованье** *наз. Несапсаванне.* въскрсніе, незопсова*н*е, и з$^s$ агглы веселіе, сна на оболоцѣх$^s$ потыка*н*е (Каз. Кір., 30); Невреждепіе: Незопсованье, ненарȣшен$^s$е (Бяр., 17).

**Незпроста** *прысл. Нездарма.* Незпроста теды и ѡ*д*нымъ способомъ тыи речи розȣмѣти потреба (Мак., 180); што сѧ ѡ Іѡвѣ написало, незпроста, и ꙗкъ бы ничого розȣмѣти потреба (Там жа, 235).

**Незрадливый** *прым. Непахвальны; непрыемны; непрывабны.* нелестны*и* — незрадливый (Зіз., 48); Нелестный: Незрадливый, щирый (Бяр., 93).

**Незрожай** *наз. Тое, што і* неурожай. Я Усеин Маликбашич ... в лихолетя, для незрожаю збожа, в не малые и долги по-

палъ (АВК, XXXI, 7, 1563); в тыx рокаx ҳ҃ х҃а хв҃ великие силные были незрожаи (Барк., 167).

**Незрожайный** *прым. Тое, што і* неурожайный. онъ тое жито севбою спознилъ, которое за севбою его спозненое незрожайно было (АВК, XXI, 291, 1558); есми по своей доброй воли, а злаща теперешнихъ летъ незрожайныхъ, ижъ ся не чимъ покормити, продалъ есми власное свое отчизны (АВК, XXII, 324, 1570). // *перан.* овое пало на зе*м*лю злꙋю, то естъ на дш҃ꙋ незрожайнꙋю и пꙋстꙋю, слова мꙋдрости не маючꙋю (Каліст, II, 123б).

**Незрозуменье** *наз. Неразуменне.* на мене ѡ невѣдомос*т* добра и незрозꙋменѕе за зле маешъ, тое собѣ оуважъ (Варл., 220б).

**Незсплаченье** *наз. Незаплата.* справы ... о незъсплаченье ему сумы пнзей ... за певны товаръ (АВК, XXXIX, 22, 1578).

**Незсыланье** *наз. Неспасыланне.* Въ справѣ въ Бозѣ превелебное ей милости ... незъсыланье на верификацію и неплаченье за подданыхъ цыншу (АВК, XV, 178, 1666).

**Незунискованый** *дзеепрым. Не ахоплены уніяй.* называючисѧ вже костела Рымского заходнего неслыханы*м* в христіа*н*ствѣ имене*м* ꙋніатами, а не це*р*кви восто*ч*нои гре*ц*кои правосла*в*ными хр*с*тіанами. С ты*х* теды причи*н* Рꙋ*с* незꙋніованаѧ ѡпатрнос*т* бозскою и справою дх҃а с*т* (Дыяр., 171б).

**Незупелный** *прым. Тое, што і* незуполный. розумеючи собе пани Щодриной незупелный поступокъ правный ... кождому зъ нихъ обвиненому ... само седмъ присегнуть (АВК, XVIII, 149, 1597).

**Незуполность** *наз. Непаўната.* каждый з насъ повиненъ будетъ ... першого дня станути ... не збияючи позву незуполностью ураду (АВК, XX, 46, 1583); повинни дѣти усправедливитисе каждому ... который бы зъ отцомъ ихъ право вести началъ о якую кольвекъ речь, не вымовляючися незуполностью лѣтъ (АВК, II, 272, 1590).

**Незуполный** *прым. Няпоўны; не ўвесь.* видечы тежъ, же тот листъ незуполный показуешъ, а хотя бы теж и листъ был мне зуполъный показан, я дей предсе увязаня не поступую и моцне бороню (АВК, XXXVI, 25, 1582); кгвалтовникъ за таковымъ незꙋполънымъ доводомъ го*р*ла не тратить, ѡдно кгвалтꙋ дванадъцать рꙋблеѕ грошеѕ ... маеть платити (Ст. 1588, 396); передъ который бы ся тая справа прыточыла, хотябы на тотъ час и незуполны был (АВК, XXXII, 73, 1596); заплатили за незуполный день золот. два и асмак. осмнадцать (ИЮМ, II, 139, 1684). *Параўн.* незупелный.



**Незутленый** *дзеепрым. Несатлелы.* црк҃овъ хв҃а ѡ*т*всюль оутѣснѧема, воюема ѡ*т* всѣхъ ꙗвными и покрытыми оутисками, еднакъже трваетъ ненарꙋшена и незоутлена (Апакр., 190б).

**Незхожий** *прым. Непадобны.* Якъ вамъ бояромъ и сорома нѣтъ такіе рѣчи къ дѣлу и къ правдѣ незхожіе мовить и писать (АЗР, IV, 279, 1608).

**Незъездъ** *наз. Няўка на з'езд.* Которого въ незъѣзду намъ коммисарского дали есьмо сесь нашъ листъ съ печатьми и съ подписами рукъ нашихъ сторонѣ пану инстикгатору (АВК, VI, 213, 1600).

**Незъеханье** *наз. Няўка, непрыезд.* ся тотъ съемъ Городенскій почати ани на немъ постановенье чинено быти не могло за нез[ъ]еханьемъ ... на рокъ, сойму зложоный, некоторыхъ особъ (КПД, 406, 1567).

**Незыблющийся** *дзеепрым. Непахісны.* каменемъ назвалъ цр҃ковъ нава*л*ности розмаитые прійм*ꙋ*ючꙋю, а незыблющꙋюсѧ, абовѣмъ цр҃ковъ ѡ*т*носѧчи различные искꙋшеніѧ, побѣдитисѧ не можетъ (Апакр., 97б).

**Незычливе** *прысл. Незычліва.* Крадуть по*д*даные пановъ свои*х*, если имѕ подачковъ несправе*д*ливе ѡ*т*дають ѕ, естли незычливе робѧть, або иныхъ повинностей своихъ не дѣлають (Будны, 89б—90).

**Незычливость** *наз. Незычлівасць; непрыязныя адносіны.* пани Марына Леоневна Кушъпелевна оповедала, ижъ дей за незычливостью неприятеля нашого пана Григорья Марковича Воловича ... приводитъ дей мене на то, абыхъ я з мужомъ моимъ с паномъ розвелась (АВК, XXI, 250, 1556—1557); того не дошолъ за причиною мачохи и незычливостью оныхъ братьи своее, бо его до того недопущали (АВК, II, 240, 1580); ст҃ыѕ василеѕ ... маючи нѣѧкую незычливос*т* ꙋ еп*с*копа ѡного мѣста евсевиѧ, ꙋдалсѧ на пустыню (Зб. 82, 285). *Параўн.* незычность.

**Незычливый** *прым.* **1.** *Незычлівы.* товарише не были му незы*ч*ливыми (Еўл., 19); Лꙋкавенъ: Ѕлостливый, шкодливы*и*, незычливы*и*, нещирый (Бяр., 213); хто е*ст* та*к* нерозꙋмныѕ и своего добра незы*ч*ливыѕ (Зб. 255, 359б); се*р*ца з мыслиѕ гнѣвливы*х*, скве*р*ны*х* зави*ст*ны*х* незычливы*х*, ѡклеветаючи*х* пого*р*чаючи*х* ... ѡбрѣзовали (Зб. 82, 282б).

**2.** *У знач. наз. Той, хто праяўляе непрыязнь да каго-н.* Напере*д* же е [универсалы] на насъ не што иншого вытискꙋетъ, едно про*д*комъ кгвалтъ ... а притомъ хоуть до ѡ*т*критьѧ правды, которꙋю незычливые ради бы загребли (Апакр., 205); кгды

хотѣл там ѡт сего надднепрского киева до ѡног над дȣна$^s$ перенести столицȣ свою, тог емȣ тамошнии ѡбыватели вшелꙗкими способами ꙗко незычливыи забѣгли, иж зоставал до смерти тут в россии (Стрыйк., 436б).

**Незычность** *наз. Тое, што і* незычливость. маючы на себе великȣю трȣдность а впалость в незычьности ѡтъ крывдъ ѡт сȣседовъ нашых панъ анъдре$^s$ ѡлабушъ невиньне на насъ мелъ презыск (КВС, 563, 1552).

**Незыщенье** *наз. Неспагнанне, неатрыманне.* за каждое невыполнене и незыщене сего листу нашого маем пну Ивану самому або пни малъжонце его, детем и потомком ихъ ... заруки заплатити двадцать копъ грошей (АВК, XXXI, 78, 1591); за незыщенем водле опису своего сама тая Кунка Итешовна в заруки и въ заплачене шкод и накладов пну Яну Менчынскому попала (Там жа, 235, 1595); естли бым на тот рокъ ... грошей не отдал, а тот рокъ за убеспеченьем заплаты в незыщеню моем омешкал ... маю и повинен буду тую суму пнзей ... отдати (АВК, XXXII, 46, 1596); о которое незыщене и недосытучынене в намънейшомъ пункте от мене сему записови моему волно будет его млсти мене позвати (Там жа, 472).

**Незыщоный** *дзеепрым. Неспагнаны.* я Симонъ Харлинскій зъ малжонкою моею, если бымъ въ чомъ водлугъ сего запису моего выкрочилъ ... за кождый незыщоный и нарушоный параграфъ пану хоружему и малжонцѣ его милости заруки по сту копъ грошеи платити маемъ (АВК, XIII, 294, 1609).

**Незьмерный** *гл.* незмерный

**Неизбройный** *прым. Тое, што і* незбройный *у* 2 *знач.* голова его была нѣизброинаꙗ длꙗ того его нѧтого до греков послать оусиловали (Троя, 50).

**Неизвестный** *прым. Невядомы.* жена ... егда болѣти начнеть востанеть сонъ неизвестенъ (Неба, 88б).

**Неизглаголанный, неизглаголаный** *дзеепрым. Невымоўны.* мнозии народи оу хсвоу православноую вѣрȣ ѡбратилисѧ. Славѧще его неизглаголаннаѧ чюдеса (Чэцця, 350); Ку тому вѣруетъ двоякое Рожество Христово: первое — изъ Отца безъ Матеры предвѣчное и неизглаголанное (Гарм., 179); ѡные набожные шлюбы и ѡбѣтницы свои в$^s$ неизглѧнной радости и веселью емȣ ѡтдавати бȣдȣтъ (Карп., 23б); Неизреченный: Невымовный, неизгланый (Бяр., 92); в небѣ сегодниꙗ неизглаголаннȣю маеt радост и веселе бог ѡтцъ (Зб. 259, 505); стыs иѡанъ ... исполнен премудрости дивно$^s$ и таин неизглаголанных (Зб. 752, 25). *Параўн.* незглагалный.



**Неизгода** *наз. Тое, што і* незгода. какая была промежи насъ нелюбовъ и неизгода и гневъ усталъ (РЛА, 233, 1466).

**Неизгодне** *прысл. Нязгодна.* слнце ... кгды наста во мнѣ мсць. днь незгоды то некгоди. кгды противнѣ и теже неизгодне (Неба, 69).

**Неизлечимый** *прым. Невылечны.* се приведешь сам на себѣ болезни неизлечими. ащеж поустишь прирожение по ѡбычаю своемȣ (Арыст., 218).

**Неизмененый** *дзеепрым. Тое, што і* незмененый. се межи стыми его никтоже неизмененъ, и небеса не сȣть чиста прѣл$^s$ лицемъ его (Скар. КІ, 20б).

**Неизмереный** *дзеепрым.* **1.** *Нязмерны.* тело силное лучши ест нежели скарбъ неизмереныи (Скар. ІС, 49); неизмереное же и непостижимое милосердие обещаниѧ твоего (Скар. ПБ, 31).

**2.** *У знач. наз. Тое, што не паддаецца вымярэнню.* Вѣрит$^s$, а не испытȣетъ, непостижимаго: Вѣритъ, а не измѣраетъ неизмѣреного (Карп., 18).

**Неизмыленый** *дзеепрым. Беспамылковы.* неизмыленыѧ заповѣди твоѧ несущии, и стоꙗще наполнилъ есть вси речи смерти (Скар. ПБ, 28б).

**Неизносимый, неисносимый** *дзеепрым. Нясцерпны, нязносны.* Моисею неизносимаѧ тѧгота бысть (Скар. ЛК, 27б); его же боꙗтсѧ вси, и трепещуть ѡт лица крепости твоеѧ и неисносимыи гневъ надъ грешники грозы твоеѧ (Скар. ПБ, 31).

**Неизренность** *наз. Бязмернасць.* Преизѧщество: попремногȣ, превозложеніе, премножество, безмѣрность, аки. неизренность (Бяр., 120).

**Неизреченно** *прысл. Невымоўна.* твоимъ бо блговещѣнием пречстаꙗ непорочнаꙗ бца радости исполниласѧ и без сѣмене ѡтеческȣю зарю неизречнно зачатъ (Чэцця, 77).

**Неизреченный, неизреченый** *дзеепрым. Невымоўны.* причстникъ боуд неизреченых твоих блгъ (Чэцця, 240б); Изъ сеѧ оубо песни Саломоновы ꙗснѣ можемы поразумети, превеликую и неизреченную млсть и любовь божию (Скар. ПП, 1б); боудоут знаходити нахоженіа нова и понеже наидоут какъ бы дополнени были грѣхове нечистыми грѣхи розличными ѡбычаи а гордости и пыхи неизреченны (Сівіла, 7); абы есмо тое неизъреченное ласки вдѧчни были (Будны, 8б); твоее неизреченное доброты и красѡты сѧ наслажати (Карп., 25); ѡ неизреченнаꙗ и непостыжимаѧ благсть премилостивag бга нашег (Зб. 82, 27б).

**Неизследимый** *дзеепрым. Які не паддаецца вывучэнню.* Іѡанъ: неизслѣдимꙋю таемницъ глꙋбинꙋ изслѣдовалъ и недовѣдомꙋю бг҃ословіѧ высокость вылетѣлъ (Карп., 21б).

**Неизследно** *прысл. Непазнавальна.* Жродло, реко доброти, недошлаѧ бездно, доброесь все ꙗкъ добріи створилъ неизследно (Лям., 5).

**Неизследованный** *дзеепрым. Нявывучаны.* потягнулъ мяеднакъ неизслѣдованнымъ промысломъ своимъ ку святой вѣрѣ каѳолической и ку церкви своей (АВК, IX, 174, 1636); розꙋмъ *ест* такъ потꙋжныѕ, ꙗкобы глꙋбина неизслѣдова*н*на (Зб. 259, 451б).

**Неизчерпаемый** *дзеепрым. Невычэрпны.* Веселие срдца то есть животъ человѣчии, и скарбъ неизчерпаемое свѧтыни и радость мужева (Скар. ІС, 49б).

**Неизчетный** *дзеепрым. Незлічоны.* свое крестное цѣлованіе великому господарю своему царю Владиславу сполните и совершите, ино за тымъ неизчетные радости, потѣхи и пожитки примете (АЗР, IV, 491, 1615).

**Неимоверливый** *прым. Недаверлівы.* апсли ... *ст*рашливи и неимовѣрливы были (Чэцця, 182).

**Неимоверное** *прым. у знач. наз. Штосьці неверагоднае.* Неꙋвѣрителное: неимовѣрное (Бяр., 96).

**Неисведомый** *прым. Невядомы.* вси речи кѕ будущему часу сокрыты суть неисведомы (Скар. ЕК, 14); ѡнъ же чинить дела великаѧ и неисведомаѧ и дивнаѧ, им же несть числа (Скар. КІ, 9б).

**Неисказанный, неисказаный** *дзеепрым. Невымоўны.* онъ ... въвидѣлъ оу бг҃а оц҃а ег безначалного сн҃а што*ж* пере*д* вѣковъ. ѡ*т* оц҃а роженаго и неисказанно*г* (Чэцця, 43); ѡнъ ... въвидѣ*л* оу бг҃а ѡц҃а. его безънача*л*ного сн҃а. штожь пере*д* вѣко*м*. ѡ*т* ѡц҃а роженого и неисказаного (Там жа, 192б); ввели мꙗ посере*д* раꙗ и та*м* виде*л* есми неисказа*н*ныѕ неве*ст*ник и столе*ц* золотыѕ (Зб. 752, 17б).

**Неисклонный** *дзеепрым. Тое, што і* несклонный *у* 1 *знач.* видишь ... ст҃го моло*д*ца. велико*г* дмитреꙗ. неисклонного къ его погибели (Чэцця, 55).

**Неискончаемый** *дзеепрым. Тое, што і* нескончаемый. на небеси вышло светло неискончаемое (Скар. ІС, 38б—39).

**Неискусный** *прым. Няўмелы; непрыдатны.* Зачимъ наступовали на столицѣ митрополитове и епископове неискусные (АЗР, IV, 1600—1605); Неключимъ: Непотребенѕ, непожитечны*и*, неискꙋсе*н* (Бяр., 93).



**Неисносимый** *гл.* неизносимый

**Неисповедимый** *прым. Неверагодны.* татіе ѡ*т*идꙋ*т* вѕ страх непостоѧненъ ... а разбойници вѕ грозꙋ неисповѣдимꙋю (Бяр., 169); любовъ славенаа. дивны*м* і неисповѣдимы*м* ѡбычае*м* дѣ*ет*сꙗ (Зб. 107, 114б).

**Неисполнение** *наз. Невыкананне.* роскошъ дочас*н*ꙋю лепѣѕ ѡбралъ ... але еи злѣ през ѡбѣтъ неиспо*л*неніе ѡ*т*страда*л* (Зб. 107, 124б). *Параўн.* несполненье.

**Неисполненый** *дзеепрым.* **1.** *Ненадзелены.* иже боудеть которыи ч҃лкъ исполненъ не в коеи мд҃рости б*ѫ*де*т* емꙋ ѡнаѧ мдрсть глꙋбокаѧ и неведома. и неисполненомꙋ же бѫдеть видѣтисѧ легка (Арыст., 220).

**2.** *У знач. наз. Той, хто не надзелены чым-н.* оумыслъ мои на то иже бы еси не *до*валсѧ в роуки неисполненых во *мд*рости (Арыст., 226).

**Неисправедливе, неисправедливо** *прысл. Тое, што і* несправедливе. ѳ*а*лко жаловалъ на индриха и*ж* бы емꙋ млынарѧ неисправедливе выда*л* (Вісл., 23б); которыи сꙋ*д*ꙗ ко*г* неисправедливо ѡсꙋди*т* не боꙗчисѧ бг҃а (Там жа, 33б).

**Неисправедливость** *наз. Тое, што і* несправедливость. Ноздри же тонъкіи, оуказь на мѧгкосердие ... толстыи*ж* по сере*ди*не а право. се*и* е*ст* оуказ на [не]поставность. и неисправедливость (Арыст., 177).

**Неисправедливый** *прым. Тое, што і* несправедливый *у* 1 *знач.* до конца будмо неисправедливы а ведаемъ што имае*т* быти (Чэцця, 167б—168).

**Неисправедный** *прым. Незаконны.* о неисправедномь браньи а любо ѡ закладе*х* (Вісл., 5б).

**Неисправне** *прысл. Тое, што і* несправне. и*ж* бы неисправне сталъ сꙋдъ с караніи подсꙋдъковы*м* (Вісл., 8б); блюдѣтесѧ вѣрнии хрстьꙗне. што*ж* нине неисправне ходите. а словеса бж҃иꙗ слышите (Чэцця, 282).

**Неисправный** *прым. Тое, што і* несправный *у* 2 *знач.* въ ряженью и справованью монастырскомъ неисправна и неспособна была (АЗР, V, 70, 1641).

**Неиспытаемый** *прым. у знач. наз. Штосьці недаступнае розуму.* Възгримить богъ гласомъ своимъ дивно, онъ же чинить велиѧ и неиспытаемаѧ (Скар. КІ, 44).

**Неистерпимый** *прым. Тое, што і* нестерпимый. пре*д*стоꙗ пре*д* бг҃омъ страшныꙗ и неследимыѧ славы бж҃ества. неистер-

во и иные злости, не можеть безъ того быти абы сѧ не съблазнилъ и закона божіа не проклиналъ (Будны, 185); часто присегаючи[s] навыкнет несправедливости (Зб. 261, 222); несправедливост[s] цалый днь або рачей по всѧ дни, розмышлѧютъ (Карп., 9); в[s] тѣню крылъ твоихъ надѣѧтисѧ бѹдѹ, ажъ переминет несправедливост (Варл., 223б); юж бовѣм ваги несправедливости до самого центрумъ припали (Дыяр., 156); ѹважъ иж богатства зовут мамоною несправедливости (Зб. 255, 91б); ꙗкъ ꙗ маю прити где несправедъливост собе гнѣздо ѹвила (Пралог, 648). *Параўн.* неисправедливость.

**Несправедливый** *прым.* **1.** *Несправядлівы.* селянѣ и подданные ... отъ воженіа каменіа ... и иныхъ несправедливыхъ роботъ выпущены и будуть вольни (АЗР, I, 75—76, 1457); панъ воевода, за несправедливымъ свѣдѣтствомъ твоимъ, сына твоего Тараса при той моей третьей части зоставилъ (АЗР, III, 47, 1553); прошѹ тебе абы еси писалъ жебы такъ несправедливые постѹпъки моцы не мели (Бер. саб., 32); не годитсꙗ хрестиꙗном на хрестиꙗн несправедливо[s] во[s]ны подносити (Стрыйк., 485); которые змышлеными словы, и несправедливымъ оубозтвомъ выпрошають пнезей, а тымъ тѧжшей грѣшать, иж до злодѣйства и кламство придают[s] (Навука, 108); неслушна бовѣмъ панѹ з натѹры и з дарѹ ѡсобливого бозского так бѹдѹчи справедливым мѣшатисꙗ в справы несправедливые (Дыяр., 164б); несправедливый перед[s] тобою оучинокъ мой, же гонилесь мене теперь, ꙗкѡ збѣга ꙗкогѡ (Хран., 48б). *Параўн.* неисправедливый.

**2.** *У знач. наз. Той, хто несправядлівы.* дожчіть на справедлівые, и на несправедливые (Цяп., 7); ты вѣдаешъ гсди ꙗко мнѣ не мила хвала несправедливых, и ложе неѡбрѣзанцовъ (Біблія, 577); зачинает несправедливы[s] болест то ест грѣхъ болести пекелное (Зб. 259, 528б); несправедливые будѹт покарани, а потомство незбожныхъ загинет (Пс. XVII, 2б).

**Несправеное** *дзеепрым. у знач. наз. Нявыкананае.* сѹстав мои оу глѹбокостѧх земле несправеное мое видели очи твои, в книгах твоих все бѹдѹт написаны (Пс. XVI, 134б—135).

**Несправление** *наз. Непрыгатаванне.* осщаемый ... при кѹхни епспкой живит[s]сѧ, ѡт еꙁамѣнатора и иншыхъ наставлѧет[s]сѧ, длѧ того и несправленіе ѡбѣдѹ, есть, и быти можеть причиною воспрійманіѧ малого ничто ѡт Іереѧ (Зб. вып., 59—59б).

**Несправне** *прысл. Несправядліва, беспадстаўна, неабгрунтавана.* бѹдѣт лі таꙗ дѣвка а любо жонъка несправне жаловала и знаме на еи не бѫдѣт тогды том на ког ѡна жаловала имѣет сѧ очістіть (Вісл., 36б). *Параўн.* неисправне.

**Несправный** *прым.* **1.** *Няспраўны, пашкоджаны, сапсаваны.* Мерзость есть прѣдъ богомъ вага и вага: мерило несправное не есть добро (Скар. ПС, 31б).

**2.** *Няўдалы, няспрытны; няўмелы.* жикгимонт ... мѣл люд велики[s] ѡдно несправны[s] (Бельск., 406б). *Параўн.* неисправный.

**3.** *Фальшывы, несапраўдны.* Лодвикъ вказалъ передъ нами на тую землю листъ отца нашого несправный, ѳалшовный (КЗ, 524, 1494).

**Несприязливый** *прым. Непрыязны.* оуста грешных, оуста зрадливые ѡтворилис на мѧ вымовѧли ꙗзыком зрадливым и словы несприѧзливыми ѡгорноули мѧ, боролис со мною даремне, оу любви место ѡболгали мѧ (Пс. XVI, 111б).

**Несподаный** *дзеепрым. Непрададзены.* по выйстю року нашого, новонаступуючые панове дозорцы несподаного напитку не приняли, то намъ зъишолъ (ИЮМ, IV, 26, 1689); Казалъ панъ войтъ для пановъ маистратовыхъ одыскать зъ Северыновщыны меду полтора гарца на спробъ, который мы приняли несподаный отъ прошлорочныхъ шафаровъ (ИЮМ, X, 38, 1695).

**Неспросталость** *наз. Недасведчанасць.* хотѧчи всесилный Бгъ поганѡмъ онымъ оуказати, же не длѧ непотѹжности, анѣ длѧ неспросталости выдалъ им Ізраилтѧнъ, але длѧ грѣхѡвъ (Каліст, I, 131).

**Неспротивяньесѧ** *наз. Несупраціўленне.* третаꙗ [!] жродло недосконалости занедбане малых рече[s] и неспротивꙗнесꙗ ѡным (Зб. 261, 130).

**Неспусканый** *дзеепрым. Нязмешаны з драўляным алеем (аб воску).* у Стася Шамала пенки берковецъ одинъ, двадцать на дворѣ у пуни неспусканого воску берковисковъ пять (АВК, IX, 468, 1626).

**Неспячий** *дзеепрым. Які не спіць, не знаходзіцца ў стане сну.* Ѡ неспꙗчих монахах: За тог генадиꙗ патриархи зачалсꙗ закон монахов, котрых зовут неспꙗчими, которие роздѣлени, на три части, во дни и в ночи, на ѡтмѣни, николи не ѹстают, гда бга хвалити (Бельск., 314б); нашолъ сторожѹ неспꙗчую и вси замъки цѣлы и затворены, а ѡтворивши ѡбачилъ в[s] темници епископа (Пралог, 564б).

**Неставанье** *наз. Неспыненне.* На которы то костелокъ впередъ для хвалы Божей, а ку розмноженью и неставанью оное ... описую (АВК, XX, 229, 1612).

**Неставенье** *наз.* **1.** *Нез'яўленне, няяўка.* Въ справѣ вельможного его милости пана Адама Геронима ... за позвомъ о противенство декретови суду ... въ неставенью черезъ помененыхъ чернцовъ (АВК, XV, 41, 1649); за неставенье вышъмененыхъ ... въ прыпаруце будучыхъ ... всказуемъ (АВК, XXIX, 45, 1676).

**2.** *Недастаўка, непастаўка.* Ѡтложенье справы ѩнꙋ Скиндерꙋ ... ѡ неставенье въ ровныѕ делъ серебра (КСД, 825, 1514).

**Нестале** *прысл. Нястала, несур'ёзна.* Пан Анцолот рече: Ѡ мои боже, ѩкъ нестале поведаете вашому пану ... бо коли бы нашъ витез того витезѧ добыл, длѧ чого бы своего коня упустил? (Трыст., 96).

**Несталное** *наз. Тое, што і* нестанное. судъ вашу милость водлугъ права въ несталномъ пети копахъ грошей здалъ (АВК, I, 273, 1615). *Параўн.* несталность.

**Несталность** *наз. Тое, што і* несталное. на его милости ... за то, ижъ справедливости не чынилъ ... несталность водлугъ артыкулу ... пять копъ грошей ... присудили (АВК, I, 274, 1615).

**Несталый** *прым. Нясталы, зменлівы, непастаянны.* непостоѧнныи — несталыи (Зіз., 48); Каликгꙋлин ... ꙋмѣл по грецкꙋ и по латинѣ, але был розꙋмꙋ несталог, с тог матка его антониѩ звала его людскиѕ див (Бельск., 208б); одна злость намѣтностій людскій рожай ѡгорнꙋла, и тыми всѣми несталыми грꙋбыми плонными и страховитыми мыслѧми ѩкъ ситомъ, кнѧзю злостій сѣѧти волно (Мак., 51); Ани бовѣмѕ такѕ несталыми естесмо, абысмо длѧ страхꙋ мꙋк твоих философіи нашеи ѡтстꙋпили (Варл., 202); Непостоѧнный: Легкомыслныи, неꙋставичный, несталый (Бяр., 94).

**Нестанное, нестаное** *наз. Штраф, грашовае спагнанне, плата за няяўку ў суд.* хто бы будучи позван на першых рокох не стал ... заплатити маеть нестанног копу гршэи (Ст. 1566, 46); до плаченя винъ стороне и суду за двое нестаное и на позов одповѣдати мене прымусили (АВК, XXXVI, 131, 1582); таковыѕ маеть стороне на других рокохъ перъвеѕ нижли в сꙋдъ ꙋступить, заплатити нестаного за кождые позвы чотыри копы грошеѕ (Ст. 1588, 153); тогды за дрꙋгими позвы на дрꙋгихъ рокохъ нестанъное платити, а на речъ самꙋю з стороною росправꙋ прынѧти повинъни бꙋдꙋть (Там жа, 194—195); ажебы на нестанное выписы мѣли быть покладаны, тогды артыкулы того не учать (АВК, II, 275, 1590). *Параўн.* несталное.

**Нестанный, нестаный** *дзеепрым.* **1.** *Звязаны з нез'яўленнем, няяўкай у суд.* хто бы без причинъ правных на першихъ рокохъ не сталъ, тогды на дрꙋгихъ рокох вину нестанънꙋю заплативши, позву збивати не будеть мочи (Ст. 1588, 151); повиненъ будеть ... рꙋбль грошеѕ стороне жалобноѕ заплатити под таковою моцъю и повинностью, ѩко вышеѕ ѡ винахъ нестанъных есть ѡписано (Там жа, 198); врадъ въ справѣ року завитому неподлеглой мѣсто вины нестанное в самой речи всказъ неслушне учинилъ (АВК, XV, 65, 1653); на першомъ терминѣ декретъ нестанный дня 25 Мая выпалъ (Там жа, 279, 1671); декретъ нестанный на дню 17 мѣсеца Юля стануль (Там жа, 487, 1686).

**2.** *У знач. наз. Той, хто не з'явіўся ў суд.* панъ судя мене за нестаного, черезъ волане возных по тры дни у суду здалъ (АВК, XXXVI, 158, 1582); здавшы князя Льва Масальского за нестанного ... права покладати наказали (АВК, II, 8, 1584); в речахъ меньшихъ не кривавыхъ где ѡ горъло не идеть врѩдъ не маеть на выволанье нестаного ѡтсылати (Ст. 1588, 169); надалей до третего дня до понеделка прышлого за нестанъных мают быти зданы (АВК, XXX, 13, 1589); Мы, врадъ ... здали есмо Федора а Богдана Карниловичовъ Превальскихъ нестанными (ИЮМ, XXI, 401, 1598); судъ духовный, на попиранье инстигатора духовного, позваныхъ, Стефана Зызанію и Васи-лья и Герасима поповъ ... за нестанныхъ признавши ... зъ собору своего отъ церкви соборноѣ вылучили (АЗР, IV, 132, 1596); умоцованый митрополитовъ просилъ, ижьбы того позваного нестаннымъ на упадъ рѣчи, яко на року завитомъ здано (Там жа, 175, 1597); помененыхъ воѕтеха завистовъског а ѩна жемъбоцкого за нестанныхъ ихъ здавъшы на выволанье до нас гсдра через листъ своѕ ѡтослал (КЛС, 149б, 1597).

**Нестановенье** *наз. Нез'яўленне, няяўка.* ино дей они и другого дня до насъ на копу не становили се и такъже дей ведомости нестановенья своего не учинили (АВК, XVIII, 108, 1592); роки за позвы припалые ... за тымъ и нестановеньемъ своимъ ꙋ сꙋдꙋ зволокали (КЛС, 169, 1598).

**Нестаное** *гл.* нестанное

**Нестаный** *гл.* нестанный

**Нестанье** *наз. Нез'яўленне, няяўка.* О нестан[ь]е князя слуцкого на сойме (КЗ, 660, 1496); такъ копа за его нестанье знашли его виноватого (КВЗС, 132б, 1539); сторона позванаѩ ... тыхъ винъ за нестане свое платити не хотела (Ст. 1566, 46б); показуючи першое позыванье а нестанье князя на двоихъ рокахъ покладалъ позвы (АВК, II, 8, 1584); на тыхъ другихъ рокохъ маеть вины за перъшое нестанье свое заплатити стороне жа-

лобно$^s$ чотыры копы гроше$^s$ (Ст. 1588, 155); панъ Мицута, яко самъ ку праву не сталъ, такъ и никоторое вѣдомости о собѣ и причинѣ нестанья своего намъ суду и сторонѣ своей не далъ (АСД, IV, 63, 1602); ксендзъ Кобылинскій ... присегу въ нестанью е. м. п. Кишки передъ ними, паны врадниками, вжо выконалъ (АСД, VIII, 227, 1617); том перевод права въ нестанию ег ѡдержан ест (КАР, 5, 1646); тотъ декретъ въ нестанью есть одержаный (АВК, III, 77, 1672). *Параўн.* нестатье.

**Нестареючийся** *дзеепрым. Які не старыцца, не старэе.* Што бовѣмъ могло быт горшого и бѣднѣ$^s$шого ... вмѣсто завше здорового и нестарѣючогоѥ, хорим и старости подлеглым: вмѣсто доброго, злымъ (Пралог, 542б—543).

**Нестатечне** *прысл. Ветрана, легкадумна.* если бы девъка нестатечне чыстость свою на вшетеченьство ѡборочаючы мешкала (Ст. 1588, 340).

**Нестатечность** *наз. Легкадумнасць, несур'ёзнасць; няўстойлівасць, зменлівасць.* кгдыбы сѧ лоуцкій вландыка [!] потоурчилъ (ѩкожъ смотрѧчи на его нецноту и нестатечность не соут то неподобные речи) тогды бы ѡвцы его были вымовлени пред гмъ бгм$^s$, кгды бы его прикладом до махомета пристали (Апакр., 65б); Скоро мендокгъ крол литовски$^s$ вѣру хрстиѩнскую новопринѩтую покинул, а до поганскои першои вернулсѩ, не могучи тог блуду терпѣт сын его во$^s$селок и видѩчи нестатечност ѡтца своего в римско$^s$ вѣре з$^s$ехал до галича (Стрыйк., 525б); мысли моеи нестатечность оуправити старал$^s$сѧ (Варл., 124); не смутижсе же еси мене не видела, але раче$^s$ уважа$^s$ порожност и нестатечност свѣта сего (Зб. 107, 88); Розмышлѩне ѡ нендзы нестатечности живота людског (Зб. 255, 431б).

**Нестатечный** *прым. Няўстойлівы, зменлівы; нясталы, несур'ёзны, легкадумны.* ижъ были нестатечными каралъ ихъ тымъ панъ богъ ижъ кгды ѡт папежовъ ѡтступовали у пановъ и цесаровъ своих у тыраньскую моцъ упали (Бер. саб., 43—43б); здала се таѩ присега паном полским нестатечною (Стрыйк., 566); которіи нестатечными и лѣнивыми суть, не шукаючи тых$^s$ помѣненых речій, такіи в$^s$ тѣлѣ еще живут$^s$ (Мак., 87); ѩкъ намудрѣйшій лѣкаръ, нестатечной нашей и до грѣха склонной воли, покуты лѣкарство справил$^s$ (Варл., 94); Плъзокъ: Ховскій, слизок, метаѳ: Несталый, нестатечный, непевный, ѡтмѣнный (Бяр., 110); гледи щобыс ѡтцу се ѡтдавши, себе и ѡтца ѡ згубу не привел але ѡ нестатечны$^s$ конецъ речи$^s$ земских (Зб. 107, 65); уваж, ижъ жывот людски$^s$



тую теж мает нендзу, же есть ѡтменны$^s$ и нестатечны$^s$ (Зб. 255, 431б); том знак толко прудкости нестатечно$^s$ служит, бо кон барзе$^s$ прудько устает (Зб. 259, 555б); по бурливом зимном и нестатечном времени весна наступует, ѡтганѩючи вси ѡнные невчасы (Пралог, 543); за робене кабата древнянаго для служебницъ нестатечныхъ боньдару Степану заплатили золотыхъ два (ИЮМ, IV, 122, 1686). *Параўн.* нестаточный.

**Нестатокъ** *наз.* **1.** *Недахоп; несур'ёзнасць; недасканаласць чаго-н.* хто родитсѧ тоѧ звѣзды бѫдеть нестаток а велми лихого розѫму (Неба, 64б); тотъ писар ... намъ ... непорѧдокъ, слѣпотоу, нестатокъ, глупство, блюзненье, смѣлость, и вшетечность безбожноую, а згола все што ѩдовитаѧ слинка до оустъ принесла приписуючи (Апакр., 4б); ѡшукали сѩ на нем люди иж умѣл покрит свою плохост и нестаток (Бельск., 304); мнимают, звлаща же таковыи оумомъ и помыслом подобны суть свѣту, а порушеню, нестатку помысловъ, невѣрству, мѣшанинѣ, затурбованю и болѧзни, ѩк$^s$ и вси иншіи члвци подлеглыи (Мак., 52); недобре чините. иж ѡтменит и в нестаток свою прозбу привест хочете (Жыц. св., 67б); ѡдного мніха длѩ нестатку и некарности его выгналъ з гнѣвомъ Венедиктъ стый (Пралог, 518); том сам их нестаток досыт нам ест на показан$^e$ их фалшу (Выкл., 59).

**2.** *Нястача; беднасць.* былъ завше нестатокъ велики$^s$ (Зб. 259, 402б); при слодкости горкост при достатку нестатокъ, при житю абы смерть имъ зготова[на]ѩ была (Там жа, 576).

**Нестаточный** *прым. Тое, што і* нестатечный. хто глупыи приступи се здѣ нестаточныи срдцомъ рекла ему (Зб. 262, 97б); муж нестаточныи любить веселье (Там жа, 104); протоже ѡсуждаем. иже голова мала велми. се ест лихо велично. занже коли будет ли мозгъ малъ. а боудет дѣло его нестаточно (Арыст., 184); то знаком ест члка легкого нестаточного глупого (Зб. 261, 145б).

**Нестатутовый** *прым. Не вызначаны статутам (пра тэрмін).* поддаючи ото себе под вшелякое воли их уподобаное право, до которого буд земского, кгродского ... в повет и на рокъ хочъ нестатутовый ... поносит и досит чинит под таковою ж зарукою повинни будемъ (АВК, XXXI, 179, 1593).

**Нестатье** *наз. Тое, што і* нестанье. панъ ... за нестатьемъ тебе самого и всее капитулы твоее тые роки зволокалъ (АСД, I, 201, 1596).

**Нестаючий** *дзеепрым. Які пастаянна рухаецца, не стаіць на адным месцы.* Престол зас ѡнои церкви так казал учинит цесар

11 Зак. 824

... так ꙗкобы завше рȣшаючим а нестаючим вѕ ѡчах людских был (Бельск., 327б).

**Нество** *гл.* нетство

**Нестворенный, нестворeный, нествороный** *дзеепрым. Нястворaны.* Бг҃ъ ѡтц҃ъ ѡное преславное ѡ единородномъ и съпрсно сȣщномъ сн҃ȣ своемъ ѡт него прежде денница рожденномъ, а несвворенномъ, свѣдецство выдалъ (Карп., 16б); Нескончоный, непристȣпный, и нествороный Бг҃ъ, зѕ неѡгорненои и невымовнои доброти своеи взѧлѕ на себе тѣло (Мак., 32); вызнаваю, славлю, и кланѧюсѧ ѡдномȣ Б҃ȣ вѕ трехъ персонахъ, споль истотномȣ, и без замешанѧ бȣдȣчемȣ, нестворeномȣ (Варл., 209б); ѡгледаемъ свѣтлост ѡнȣю нествороную, то ест себе самозо (Выкл., 120).

**Нестейты** *гл.* нестеты

**Нестереженье** *наз. Адсутнасць пільнасці.* порожне бȣдеш працовал, все длꙗ нестереженꙗ ѡчиѕ ȣтратиш (Зб. 261, 144б).

**Нестерпимый** *дзеепрым. Нясцерпны, невыносны.* до незнѡсныхъ и нестерпимыхъ бѡлевъ и мордѡвъ ... тѧгненъ былъ (Каліст, II, 82); слава тебѣ Гсди, иже еси чȣдны и непостыжимы и нестерпимыѕ и недовыдомы все ѡт небытіꙗ во бытіе приводишъ (Алекс. 1697, 91—91б). *Параўн.* неистерпимый, нестерпливый.

**Нестерпливый, нестирпливый** *дзеепрым. Тое, што і* нестерпимый. посполитые тамо люди длѧ силное а нестерпливое горючести слнечное оусегды по ночи ездѧт и ходѧт (Валх., 46б); платье ... широко а над обычай чисте и беле. длѧ нестирьпливой горючести солнечной оудѣлане какъ оу насъ летники (Там жа, 70б).

**Нестеты, нестейты** *прысл. у знач. пабочнага слова. На жаль.* Агъ нестетыжъ, жесмо себе такъ срокгими злостми збогатили (Каліст, II, 311); Нестейты жесмо сѧ насмѣвиско [!] стали споль мешканцѡмъ нашимъ (Там жа); самъ мовилъ, нестеты жъ несправедливе ми і невинне скаралъ (Зб. 81, 163б). *Параўн.* нестыйтежъ.

**Нести** *дзеясл.* **1.** *Несці; узяўшы ў рукі перамяшчаць, даставляць куды-н.* ꙗнъ ... зъ своее зъ влостное бчолы мед несъ до своего домȣ (Вісл., 19); взялъ на мнѣ полтретьꙗдцать копъ грошей серебщиныхъ пенязей, которыи есми несъ до хорȣжого Вилькомирского (КСД, 399, 1516); кождыѕ ȣ войску нашом ... кождую рэчъ знашэдшы мает нести до гэтмана (Ст 1566, 26); голову его через мѣсто Городно на древцу нести



казал (Рач., 279); алеѯандре можеш ли ты переменит тую горȣ, а нести ю на раменах своих (Алекс., 75); гды мȣ хлѣба и воды, которȣю несъ зѕ собою не стало, был вѕ великомъ оутрапеню (Мак., 15б); пȣстилъ голȣбицȣ з кораблѧ, а она прилѣтела до негѡ подѕ вечеръ, несȣчи оливнȣю рощкȣ зѕ зеленымъ листьемъ въ гȣбѣ своей (Хран., 16); Метрополѣта ... можетъ повелѣти крестъ великій пред собою нести (Зб. вып., 67).

**2.** *Везці; дастаўляць пры дапамозе транспартных сродкаў, уючных жывёл.* естли бы тежъ тотъ подводникъ мусилъ и назадъ на той подводѣ нести гонца, ино ему платити потомужъ (АЗР, III, 92, 1557); поведал ми еси, иж несеш тую панну за своего дѧдка, ꙗкъ сѧ еси ему ѡбецалъ (Трыст., 83); ѡни несучи збожье на ѡслах своих поехали и здорово се до ѡтца воротили (Біблія, 94).

**3.** // *перан. Выконваць якія-н. павіннасці, даручэнні.* они ровьную оборону з вами несли (КПД, 113, 1544); абы мѣщане, которые имѣнья подъ собою держатъ, ровно зъ вами, водлѣ важности имѣней своихъ, оборону несли (АЗР, III, 12, 1547); Слобожане, куничники и вси тыи мѣщане, которые передъ тымъ званы были сусѣды и огородники, маютъ нести одну повинность зъ мѣщаны (Там жа, 111, 1561); он ... всякие подати до скарбу гсдрьского належачие полнити нести виненъ бȣдетъ (АВК, XXXIX, 24, 1578).

**4.** // *перан. Прыводзіць да пэўных вынікаў; цягнуць за сабою кару, спагнанне.* або кгвалтъ ꙗкиѕ што несетъ за собою винȣ крвавȣю ȣчинивши ȣтеклъ (Ст. 1588, 19—20); за што слушнѣ повинни есте на собѣ нести отъ нашого зверхнего пастырства неблагословеніе Божье и отлученье церковное (АЗР, IV, 33, 1590); пни старостиная ... абы се становила и тыхъ слугъ в такой справе, которая крвавое каране за собою несетъ объжалованых поставила (АВК, XXXVI, 406, 1590); бѣда тобѣ, если тамъ, где справедливый естъ сȣдъ и правдиваѧ за оучинки заплата, тѧжкое грѣхȣ бремѧ з собою несȣчи ѡтыйдешъ (Варл., 256).

**5.** *Мець, змяшчаць у сабе.* его милость ... установляти рачитъ, ижъ отъ сего часу быти маетъ мѣра полубочокъ Виленьскій такъ великъ, который бы въ собѣ несъ двѣ бочки (АЗР, III, 11, 1547).

**6.** // *перан. Весці, накіроўваць.* ȣлеклъсе тогды илиꙗ, а вставши пошолъ где его колвекъ волꙗ несла (Біблія, 442); антоныѕ ... взꙗвшы посох шолъ где его ѡчи несли (Зб. 82, 317).

**7.** *Устанаўліваць; прадугледжваць; вызначаць.* не ѡбыходилъсꙗ з нимъ ꙗко ѡбыча[s] посполитого права несеть (КВС, 592б, 1552); тепер[ъ] передъ иншими пилными потребами земъскими часъ того не несеть (КПД, 497, 1568); длѧ которых прычын видит ми сѧ иж не потреба и час тэж того не несет (Атыла, 192); свѣцкимъ панѡмъ своимъ соуть в[s] рѣчахъ свѣцкихъ пѡслꙋшни, ѡтдаютъ имъ честь, ѡтдаютъ а звлаща наши презвитерове, где то звычай несетъ и податокъ (Апакр., 197б); еслиж такъ потреба несе, ꙋчините што хочете (Біблія, 95); былъ званымъ дѣтинный старецъ, то есть в[s] лѣтехъ дѣтинныхъ старцемъ, иж[s] ранѣй нижъ лѣта несли, постꙋпилъ в[s] цнотахъ (Мак., 11б).

**8.** *Перамяшчаць сілай свайго руху (пра плынь вады).* коне шли тэж за лодею вниз куды вода несла (Еўл., 31); Плакида маленки[s] до реки по водꙋ бѣжал и черплючи за збаном впал и несла его река ꙋже далеко (Пралог, 51б).

**9.** *Класці яйцы (пра птушак).* кокоша котораꙗ ꙗйца золотыи несла, ꙋже се стала не плодна (Алекс., 73б).

**Нестирпливый** *гл.* нестерпливый

**Нестися** *дзеясл. зв.* **1.** *Ад нести ў 1 знач.* Рекъ Трыщан: ꙗ не могу на кони седѣти аки на носилицахъ нести сѧ (Трыст., 22); шестого днꙗ нестисꙗ до церкви казал (Пралог, 518б).

**2.** *Выбірацца, высяляцца.* ихъ самыхъ з домовъ ихъ вытискаеть и з оселеня ихъ прочь имъ нестися кажетъ (АВК, XXIV, 152, 1555); Пани Станиславовая, видечи то, ижъ они се с того дворца служити не хочутъ, казала ее с того дворца вонъ нестися (АВК, XXI, 194, 1556—1557).

**Нестовство** *наз. Шаленства, раз'юшанасць; утрапёнасць.* рекли фарисѣи. ачеи вже вы прельстилисѧ. зрите бо зависти. и нестовъства. лукавъствомъ их (Чэцця, 21б).

**Несторианинъ** *гл.* несторияининъ

**Несторинъ, несторынъ** *наз.* **1.** *Тое, што і* несторияининъ. вѣра хрестіанска оу розмаите части и людьске ѡтщепеніа есть розделена подлоуг тых людей которых именіа тоуть пописаны. ноубіаны съ золданы несторины латынници индіане арменове грекове соуріане кгеѡрькгиѧне ѧкобите николаите компоты исмы (Валх., 78); вѣра ... черес невѣрне кацери, и черес несторыни была затмена и запомнена (Там жа, 89б).

**2.** *мн. Народ, які вызнаваў нестарыянства.* Несторины парсиѧном соуседы (Валх., 88б); давыда сна своего на помоць несториномъ послал егож татарове ис несторыны и зо всим людом побили (Там жа, 91).



**Несторияининъ, несторианинъ** *наз. Паслядоўнік, прыхільнік секты нестарыянства.* гелена держачи тела двоух королевъ хотѧчи ихъ трехъ всехъ оуместо злоучити черес многіе послы просбами навалными и многими дары оу моцнейших пановъ того ѡстрова и тых несторіанов оупросила и ѡдержала (Валх., 75); Коли теды листы ѡныи за помочю бжою до цесара дошли, и розславилисꙗ в царѣгородѣ, што сынод стый[s] ѡт несторигаанов, ѡных дворских терпѣл (Бельск., 308); брат теды ѡны[s], знамените се з словъ его збꙋдовал и рекль, заправды ѡтче милы[s], бымъ ꙗ в краине мое[s] з несториганы не держалъ с тобою бым мешкал (Зб. 107, 178б). *Параўн.* несторинъ *у 1 знач.*

**Несторожа** *наз. Адсутнасць вартавання.* за ихъ несторожою конь ми зъ стайни зъгинулъ (АВК, XVII, 43, 1539).

**Несторожливый** *прым. Неасцярожны.* Шахта ... ловить бо на пути ꙗко лотръ, и коих ꙋзърить несторожливыхъ погубить (Скар. ПС, 36).

**Несторынъ** *гл.* несторинъ

**Нестояние** *наз. Забарона стаяць у пэўным месцы.* О дозорствѣ писарской в[s] цркве, и нестоѧніи Братіи вписной в[s] олтарю (Ст. бр., 22б).

**Нестоячий** *дзеепрым. Нестаячы, праточны (пра ваду).* коли потраѳилос роспалитис срокгости их на нас, снадбы вода потопила нас, з быстрое воды вышла дша нша снад прешла дша нша водꙋ нестоѧчꙋю (Пс. XVI, 127).

**Нестравленье** *наз. Зацвярдзенне.* Затвердѣніе: Нестравлѣнье, затвердѣнье (Бяр., 50).

**Нестравность** *наз. Нястраўнасць, ускладненне перапраўлівання і засваення ежы.* LXX преложили ... сытост, або раче[s] нестравность, або пригадлост члка сꙋшачаꙗ (Выкл., 141б).

**Нестравный** *прым. Не здольны засвоіць у працэсе страваванмя.* нестравномꙋ жолꙋдкови помагаетъ горкій полынъ, и до здоровѧ его приводитъ (Каліст, I, 56б).

**Нестрашливый** *прым. Небаязлівы.* Леѡнти[s] ... розсудокъ мѣлъ здоровы[s], мудрст досталꙋю ... в пригодах мысль нестрашливꙋю (Зб. 752, 549).

**Нестривалый** *прым. Нетрывалы, няўстойлівы.* а ктож не сталыи а нестривалыи тот погыбнеть (Сівіла, 9).

**Нестриженье** *наз. Непадстрыганне.* дали емꙋ имꙗ самсон, росло дѣтꙗ ѡное прꙋдко: а длꙗ нестриженꙗ волосов был грꙋбы[s] (Бельск., 74б).

**Нестроенье, нестроение** *наз. Нязгода, разлад.* тыхъ, кого бы вѣдали не въ законѣ мѣшкаючихъ и блуды и нестроенья противъ Богу и правилъ святыхъ отець чинили, тыхъ бы всихъ передъ твою милость припозвали (АЗР, III, 3, 1546); также великіе нестроенія межъ духовенствомъ, и зъ нашихъ нѣкоторыхъ хрестіянъ развращенія, несогласія, непослушанія, безчинства, и на многихъ мѣстцахъ не по дѣйству и зменьшенія хвалы Божія оказуются (АЗР, IV, 34, 1590).

**Нестройный** *прым. Бязладны, хаатычны.* ѹже ѹмыслъ его назад се был ѡбернулъ такъ звысока на низъ спадалъ, в мыслѧх тежъ своих сталсе барзо нестроͭныͭ (Зб. 107, 120б).

**Несть** *гл.* несть

**Нестыдатость** *наз. Тое, што і* нестыдливость. Тыи пакъ иже покусъ не терпеша съ боѧзниею б҃жиею своимъ нетерпениемъ и нестыдатостию, роптание на г҃да бога своего глаголаша (Скар. КЮ, 14б).

**Нестыдатый** *прым. Тое, што і* нестыдливый. Людие нестыдатые они же не почестують мужа старого (Скар. ДЗ, 53б); по царствовании ихъ егда ѹмножатьсѧ безаконииѧ, востанеть царь нестыдатыи лицемъ (Скар. ДП, 26).

**Нестыдливо** *прысл. Бессаромна.* Мѹжъ неверныи нестыдливо поставлѧеть лице свое (Скар. ПС, 33).

**Нестыдливость** *наз. Бессаромнасць.* Женскыи гневъ и нестыдливость есть срамота великаѧ (Скар. IС, 42); нестыдливость его чинить заткание ѹшеи (Там жа, 44б); вси речи смешаны суть ... нерѧдъ любодеаниѧ и нестыдливости (Скар. ПБ, 22б). *Параўн.* нестыдатость.

**Нестыдливый** *прым. Бессаромны.* Царь ... былъ обнаженͭ ѩкобы единъ ѡт нестыдливыхͭ (Скар. ДЦ, 77б); Горе тымъ они же суть двоитого срдца, и ѹстомъ нестыдливымͭ (Скар. IС, 7б); жена ... инѧвши младенца того целоваласѧ с нимъ, и лицемъ нестыдливымъ возревши на него и рече (Скар. IIС, 13б). *Параўн.* нестыдатый.

**Нестыйтежъ** *прысл. Тое, што і* нестеты. вси мѹки пекелные ѡбрела бым терпѣти аж до ѡного часу, але нестыͭтеж горе мнѣ не бѹдет такъ бо в пеклѣ немашъ жадного збавен[ѩ] ани ѡткѹпенͭѩ (Зб. 107, 118).

**Несть, нестъ** *безас. у знач. вык. Няма.* не впиваитесѧ вином. въ нем же нест спсниѩ (Чэцця, 19); Где несть ѹмениѧ вͭ души тамъ нетъ добра (Скар. ПС, 29б); его же црствію нѣстъ конца (Будны, 119); то есть панъ, и величію его нѣсть числа (Карп., 27б); Хлопа [!] дей ротмистровского ... нѣсть вѣдома гдѣ задѣли (АСД, I, 249, 1616); Аще разсѹждати бѹдешы, ѩко нѣсть инаго врачеваніѧ кроме покаѧніѧ (Навука, 48—49); бо нѣсть таͭно еже не ѡткриетсѩ (Дыяр., 165); ѡн ест живѹчии навѣки вѣком и моцы его нест конца (Жыц. св., 6б); на шіи ѹ конѧ нѣсть кожѣ на знак драпѣства (Зб. 107, 104).

**Нестяжание** *наз. Адсутнасць набывання, здабывання чаго-н.* завершене всѣхъ цнѡтъ прекладаетъ, нестѧжаніе, то есть, вшелѧкого дочасного добра понехане и погоржене (Каліст, II, 182б); далеко прето пожитечнѣйшее есть нестѧжаніе, тоесть, погоржене маетности (Там жа, 185).

**Несудовый** *прым. Такі, якi не мае паўнамоцтваў судзіць.* врѧдники наши на врѧдехъ наших несудовых, и тежъ в ыменьѧхъ своихъ властныхъ ... мають се заховати ... въ бранью пересудовъ и паметного водлугъ тоежъ ѹставы (Ст. 1588, 143); где бы трафилосѧ комѹ чиего слугѹ чоловека поͭмати ... в месте нашомъ где несѹдовыͭ врѧдъ и неторгового днѧ албо в селе нашомъ такового стороне жалобноͭ волно бѹдеть вести где въсхочеть (Там жа, 519).

**Несуженый** *гл.* несужоный

**Несуженье** *наз. Адклад або спыненне разбору справы ў судзе.* цытовалъ артыкулъ ... зъ розделу четвертого, пры которомъ стаючы, несуженья на сей часъ тое справы, але збуреня яко неправного ... жедалъ (АВК, I, 134, 1677); затымъ несуженья тое справы на сесь часъ, але одкладу оное до дальшого термину у насъ суду просилъ и домавялъ (АВК, XV, 353, 1677); оразъ и на сей часъ тое справы несуженья лечъ оное до дальшого термину откладу домавялъ се (Там жа, 441, 1682).

**Несужоный, несуженый** *дзеепрым. Які не адбыўся, не падпаў пад разбор у судзе.* естли бы по заложенью позвовъ роки земские або рочки земские, або рочки кгродские спользли несѹжоные за воͭною або поветреемъ (Ст. 1588, 189); Велжынскій отъ того наказу апеловалъ, чого сторона правомъ артыкуломъ ... и констытуцыею боронила, яко отъ справы несужоное (АВК, I, 85, 1649). // *перан. Неасуджаны.* Не сѹдіте, бы несѹжені былисте. Которимͭ бо судомъ судите, ѡтсѹдѧть вамͭ (Цяп., 8б).

**Несумненый** *прым. Несумненны; непахісны, цвёрды.* правовѣрныͭ з молением кѹ г҃дѹ б҃гѹ, и вѣрою несѹмнѣною в ѡгон вступил (Бельск., 315); Рѹки скоро не возлагаи нинакогож, ниж приобщаисѧ чѹжих грѣсех. але толко на тые самые, которые бы

не толко побожностью живота ꙋкрашеные были, в вѣре несꙋмненой, в розꙋме досталомъ знашлисѧ (Навука, 141).

**Несумнителне** *прысл. Несумненна; непахісна, цвёрда.* себе же мт҃твам ст҃ым ѡ них же несꙋмнителнѣ вѣрꙋю ꙗко не имате запомнити вторицею и третицею себе врꙋчаю (Дыяр., 169б).

**Несуполна** *прысл. Неспаўна, не цалкам.* я тыхъ пенезей въ него несуполна брати не хотелъ (АВК, XVII, 265, 1541).

**Несуполный** *прым.* **1.** *Няпоўны, якi праяўляецца не ў поўнай меры.* на коньцу мѣлъ бы онъ быти отпущонъ съ тымъ домниманьемъ несуполной ласки вашое милости (АЗР, II, 173, 152б); в томъ собе не мало шкодую за несуполнымъ отданьемъ от нег тое рыбы (АВК, XXXIX, 213, 1579).

**2.** *Несупольны, несумесны.* на другомъ местцу такъ же землю пустовскую несуполную ... своими Лужесняны з оныхъ земль своихъ пахалъ (ИЮМ, XXII, 265, 1629).

**Несухо** *прысл. Нялёгка; з вялікім праліццём крыві.* Если еси умыслил ударыть на угры, тогды або выиграют битвы чого боже уховаи, або до ѡдного вси полѧгуть на плѧцу, але смерть их не сухо сѧ нам ѡдерет (Атыла, 201).

**Несучий** *дзеепрым.* **1.** *Ад* нести *ў* 1 *знач.* волка тежъ ѡрачи несꙋчаго дитꙗ ꙋзрѣли (Зб. 82, 40б).

**2.** *У знач. наз. Той, хто нясе.* коли выстꙋпили на росказанье гс҃дне несꙋчіи скриню примирьѧ гс҃днегѡ з рова Іѡрданскагѡ, и сꙋхꙋю землю топтать почали, воротили сѧ воды Іѡрданꙋ до ложа своегѡ (Хран., 162).

**Несущий** *дзеепрым. ад* нести *ў* 1 *знач.* людие ... не возмогоша поити несоущии ѡдръ (Чэцця, 153б); Жерци пак$^{s}$ несущии кивот$^{s}$ завета гс҃дньꙗ стоꙗли суть посреди іордана (Скар. IН, 10б).

**Несходительство** *наз. Пагардлівыя адносіны да чаго-н.* за такіе неправды и несходительство къ добру и къ покою справедливый Богъ, какъ тому время дойдетъ, будетъ на васъ мстителемъ (АЗР, V, 35, 1637). *Параўн.* несходство.

**Несходный** *прым. Непраходны.* Несходными горами сꙋть аффекты, през$^{s}$ которыхъ сріодокъ, смоковъ ꙗдовитыхъ, гадовъ и робацствъ, рѣки выплываютъ (Мак., 162).

**Несходство** *наз. Тое, што і* несходительство. за прошлыхъ давныхъ часовъ, черезъ великое время, многіе войны, розореньья, несходства къ доброму дѣлу и ссоры бывали, и въ ту пору брано полоняниковъ многихъ зъ обу сторонъ (АЗР, V, 26, 1637).



**Несходящий** *дзеепрым. у знач. наз. Той, што ідзе ад продкаў да нашчадкаў.* котораѧ в собѣ замыкает$^{s}$ восходѧщих то ест$^{s}$ родичовъ, и нѣсходѧщихъ, то естъ потомков (Навука, 170).

**Несчадно** *гл.* нещадно

**Несчасливе** *гл.* нещасливе

**Несчасливший** *гл.* нещасливший

**Несчасливый** *гл.* нещасливый

**Несчасница** *наз. Нешчаслівая, няшчасная.* беда мне несчасници лепшей бы ми оумрети было, нижли живот вести смертельный (Пак. Хр., 11б).

**Несчасный** *гл.* нещасный

**Несчастливе** *гл.* нещасливе

**Несчастникъ** *наз. Нікчэмны чалавек.* ѡ прелихии юдашоу чи оучинилъ тобе нешто лихого тотъ милостивыи бог ... аза тобе оубогаꙗ матка оу чомъ коли виновата альбо мерзѧна была. не вѣдал еси несчастникоу ижъ таꙗ кров невинна была. ѡ прелихии чл҃вче. не толко сына але теж и маткоу тым делом продал еси и забил еси (Пак. Хр., 1б).

**Несчастье** *гл.* нещастье

**Несчюжоложеный** *дзеепрым. Які не парушыў шлюбнай вернасці.* тои такои едности в$^{s}$ ѡтдаванюю послꙋшенства и в$^{s}$ признаванью одновладства костелного римскомоу бискꙋпови засажонои, не зналъ весь першій правдивый хрстіанскій костел, не знала онаѧ несчюжоложенаѧ и единои ложницы ст҃обливости чистою встыдливостью и покорою перестерегаючаѧ ха҃ га҃ облюбеница, которои члонки же теперъ в$^{s}$ нб҃сной сꙋть радости ничого не вонтпимо (Апакр., 164б).

**Несщасливый** *гл.* нещасливый

**Несщасный** *гл.* нещасный

**Несыи** *дзеепрым. ад* нести *ў* 1 *знач.* сошол бо сам гсь оу адъ несыи со собою крстъ (Чэцця, 170); того ради пришол сн҃ъ бж҃ии ... оу ѡрꙋжьꙗ мѣсто крстъ несыи. погоубилъ бѣсовскиꙗ силы. всѧ праведныѧ в раи привелъ (Там жа, 358—358б).

**Несытно** *прысл. Няўстрымана, нястрымана.* встыд мнѣ мовити ꙗко есми девицство свое стратила а в спросны$^{s}$ животъ без встыдꙋ ꙋдала, несытно творꙗт любодиꙗніе, стыждысꙗ и помыслити (Зб. 752, 141б—142).

**Несытность** *наз. Ненасытнасць, хцівасць.* Штож$^{s}$ первей в$^{s}$ лакомомъ томъ богачу ганити маемо, неꙋжитост$^{s}$ и скꙋпство, чили глꙋпство и несытность (Каліст, II, 157б).

**Несытный** *прым. Бязмежны, невычарпальны.* повинни есмо жадати ... наꙋки Збавителѧ нашего и Бг҃а, и любовъ до неи мѣти несытнꙋю (Каліст, I, 16б); ласкꙋ свою з̑ великою охотою и вѣрою, з̑ сердечнымъ жадан̑ем̑ и з̑ несытною любовію захотѣти принѧти (Каліст, II, 44б); Чекаеть и онаѧ надъ Херꙋвимѡвъ честнѣйшаѧ и над Серафимѡвъ славнѣйшаѧ, срдца твоегѡ несытнаѧ оутѣха (Сматр., 45). *Параўн.* несытый *у* 2 *знач.*

**Несытость** *наз.* **1.** *Ненасытнасць; пастаянны голад.* зомглена будеть ѡт гладу сила его, и несытость внидеть в̑ кости его (Скар. КІ, 24). *Параўн.* несыть.

**2.** *Сквапнасць, прагнасць, хцівасць.* оубѣглисмо хмꙋръ несытости, и тꙋчи немѣрности оушлисмо (Каліст, I, 29); Чл҃къ есть живот до часꙋ позыченый ... Готовыи на лакомство. Ненасычоный на сребролюбство. Быстрооумный на несытость. Велемовнаѧ спростность (Кін., 49б—50).

**Несытый** *прым.* **1.** *Ненасытны; які адчувае пастаянны голад.* адъ ѡтвечал ко дыꙗволꙋ. коли том есть ... прошю тебе не веди его сѣмъ. и дыꙗволъ реклъ емꙋ. сила твоѧ и моꙗ и твоꙗ несытаѧ оутроба да прииметь его. только не оустрашаисѧ (Чэцця, 320б—321); старец ... ишол бо з охотою изыскати заблужшее ѡвча и погибшее иже вырвалъ с пащеки несытаго лва диꙗвола (Зб. 752, 25—25б).

**2.** *Тое, што і* несытный. Маетъ несытою любовію и ненаполненымъ пожадан̑емъ, зо всего срдца и силъ, во дни и в̑ ночи наймoжнѣйшей помочи Бж҃ей шꙋкати (Мак., 223).

**Несыть** *наз. Тое, што і* несытость *у* 1 *знач.* Безрозꙋмный лакомца, и такъ оуже зобогаченъ, еще еднакъ пропастнꙋю свою несыть показꙋеть (Каліст, II, 155б); Ненасыть: Несыть, голодност збытнѧѧ (Бяр., 93).

**Несягненье** *наз. Адсутнасць спробы маральнага ці фізічнага нападу на каго-н.* Положенье ... ѡ несягъненье ѡднымъ на дрꙋгихъ словомъ доткливымъ и рꙋкою (КСД, 952, 1516).

**Нетайный** *прым. Несакрэтны; вядомы.* доношу о то, ижъ што за онымъ всимъ нашимъ милостямъ нетайнымъ отступленіемъ пастыровъ старшихъ въ религѣи нашой отъ послушенства Всходнее Божое церкви (АЗР, IV, 245, 1603).

**Нетвердо** *прысл. Нетрывала, ненадзейна.* тая приязнь давная и братство нетвердо стало межи отцомъ господаря нашого короля его милости и тобою (АЗР, I, 210, 1500).

**Нетекущый** *дзеепрым. Які не цячэ; непраточны, стаячы (пра ваду).* продалъ и на вечность есми спустилъ всю тую часть свою ... з реками, з речками текущыми и нетекущыми (АВК, XXIV, 411, 1583).

**Нетелесне** *прысл. ад* нетелесный. Дх҃овнѣ: дх҃овне, нетелесне, сꙋптелне, таемне, ꙗкѡ бы секретне (Бяр., 37).

**Нетелесный** *прым. Які не мае матэрыяльнай асновы, абалонкі; бесцялесны.* свѣтом их длꙗ того называет, иж сут натуры нетелесное Аг҃гли, але духове ꙗсныи и ѡздобныи (Зб. 752, 469); нѣꙗкого бг҃а земного, маючого розум, волю, памет, дш҃ꙋ нетелеснꙋю нероздѣлную, несмертелную, собѣ волнꙋю, до принꙗтꙗ мдрости, цноты ласки божеи и збавенꙗ вѣчного (Выкл., 3б);

**Нетерпеливе** *прысл. Тое, што і* нетерпливе. в тыхъ ꙋбо речахъ еже терпели нетерпеливе сѧ имели: и терпѧще е гневалисѧ (Скар. ПБ, 19б).

**Нетерпеливость** *наз. Тое, што і* нетерпливость. Такъ тежъ и ѡ гнѣвѣ мовѧчы, на малый час розгнѣватисѧ, походит подчасъ з ꙋломности людской, з нетерпеливости, але через долгій часъ трвати в̑ ꙗрости есть ненависть, жестосердіе [!], и праваѧ злость (Навука, 62).

**Нетерпеливый** *прым.* **1.** *Тое, што і* нетерпливый *у* 1 *знач.* Кто нетерпеливъ ест прииметь шкоду (Скар. ПС, 30).

**2.** *У знач. наз. Той, хто выражае нецярпенне.* немлстиви ино боудьмо млстиви. а блоудници чстоту приимемъ. а гневливии кротость. а нетерпѣливии терпѣнье (Чэцця, 218б).

**Нетерпение** *наз. Нецярпенне.* Тыи пакъ иже покусъ не терпеша съ боꙗзниею бж҃иею своимъ нетерпениемъ и нестыдатостию, роптание на гсда бога своего глаголаша. Протож̑ скажены суть ѡт загубителѧ (Скар. КЮ, 14б).

**Нетерпетливость** *наз. Адсутнасць уласцівасці цярпець.* але на̑болшое их веселие будеть ... же мꙋкъ пекелных ꙋшли до которых так много их ꙋзрат быт зданых ꙋважъ ꙗкаꙗ бꙋдет тѣлъ хвала: абовем бꙋдꙋть мети чотыри ѡсобные дары: сꙋбтелност, хибкост, нетерпетливость и ꙗсност (Зб. 255, 403б).

**Нетерпленье** *наз. Бясстраснасць, абыякавасць.* безстрастіе — нетерплене, незневолене ѡт афектов (Зіз., 15); Безстрастіе: Нетерпленье, незневоленье ѡт афектѡвъ (Бяр., 2—3).

**Нетерпливе** *прысл. Нецярпліва.* ꙗко хватающии за ꙋши пса, тако и ходѧщии нетерпливе и мешающиисѧ въ свари чужие (Скар. ПС, 40). *Параўн.* нетерпеливе.

**Нетерпливость** *наз. Нецярплівасць; раздражненне, злосць.* ѡ сыноу божии с̑ноу девичии оуставичон боуди твоеи моуце.

занюж черес твою моукоу маеш ѡткоупити рожаи члвчіи. тоесть против нетерпливости нашое (Пак. Хр., 6); Атылѧ ... нетерпливостю милости будучы звитѧжоныи ... понѧлъ Микольту, дочку королѧ бактрыѧнского (Атыла, 231—232); диꙗвол ... до жаднои иѡва нетерпливости, и до грѣха не привел (Бельск., 39); Гнѣвъ: ꙗдовитость, ѣдь, шаленство, встекливость, заѧтрѣнье, нетерпливостѕ, жолꙋдкованѕе (Бяр., 28); ꙋваж терпливост хсвꙋ межы так розличном воланем, жадного слова прикрого, або ꙗкую нетерпливост показꙋючого не выдаеть (Зб. 255, 260б); мает злост возъ зе чтерма колы, з срокгости, з нетерпливости, лакомъства, глꙋпства зложоныѕ (Зб. 259, 581); проволокаю сконане розмаитостю мордованѧ ку нетерпливости приводили вѣрных бжих (Зб. 82, 31б). *Параўн.* нетерпеливость.

**Нетерпливый** *прым.* **1.** *Нецярплівы; раздражнёны, злы.* Мꙋжъ нетерпливыи чинить безѕ совѣта (Скар. ПС, 23); Долготерпеливыи мꙋжъ многоразуменъ ест, нетерпливыи же возносить безумие свое (Там жа, 23б); Пилат был родом з галилеи, том з францѣи з мѣста лꙋкгдꙋнꙋ, хитриѕ нетерпливыѕ преложон был на справы ѡт цесара тиверия (Бельск., 207б); если хто таковыѕ ласкавост моѕсеѡву ... светобливост давыдову, также и инные добрые стых приклады бꙋде прекладат, а сам бꙋде нетихиѕ, нетерпливыѕ немилосердныѕ ... наꙋчание то не барзо бꙋдет ѡвцом смачно и помочно (Зб. 255, 153б—154); ей моц бжия ꙋкреплꙗла ижь ничог нетерпливого не показала (Зб. 82, 37б). *Параўн.* нетерпеливый *у* 1 *знач.*

**2.** *Які пазбаўлены ўласцівасці цярпець.* подлоуг тела подаваюсе смрти а оумроу. але подлоуг божства есми боудоу несмертельныи. а нетерыпливыи (Пак. Хр., 12б).

**3.** *Нечуллівы, абыякавы.* гледи ꙗко працꙋеть господь жебы ꙋченики свое ѡ з мертвыхъ востанию своем ꙋпевниль, ѡферꙋеть бовемъ тело свое хотя ꙋже нетерпливое на видение и дотъкнение ꙋказꙋет руки пробитые (Зб. 255, 44б).

**Нетертый** *дзеепрым. Які не падвяргаўся апрацоўцы праз пераціранне; няцёрты.* панъ Зелепуга ... ильну два возы нетертого ... побралъ (АВК, XVII, 28, 1539); конопель нетертыхъ двѣ копѣ (АВК, VIII, 466, 1593); коноплѧми ихъ нетертыми прикрывши, затаила ихъ (Каліст, II, 255).

**Нетесаный** *дзеепрым. Не апрацаваны часаннем; нечасаны.* Олтарь ꙋделаете с камениѧ нетесаного (Скар. ІН, 18б); На середъ того двора изрубовъ новыхъ зрубленыхъ, одинъ безъ балекъ ... а другій вѣнцовъ деветнадцать на гридню, на томъ



положоно балекъ шесть нетесаныхъ (АВК, VIII, 417, 1586); збудуешь там ѡлтар ... з каменя нетесаного и невыглажоного (Біблія, 228—229); збꙋдꙋешѕ тамъ олтарь гсдꙋ бгꙋ твоемꙋ зѕ каменѧ которогѡ сѧ желѣзо не ткнꙋло, а з камени нетесанагѡ (Хран., 158); Шункевичъ райца узялъ на свою потребу лать мескихъ нетесаныхъ двадцать (ИЮМ, VI, 7, 1689).

**Нетецъ** *наз. Тое, што і* нятецъ. гсь ... хоруговъ его погубил. всѧ нетьци там будучи пустил (Чэцця, 207—207б); менесцен заправдоу волаючи спущеныя нетца своего тым пилне побужал своих ку валце (Троя, 45б); Тот мает сам тую суму або шкоду заплатити, в которой был посаженъ, и на што бы чиего нетца выпущоно слушный довод учинить (Ст. 1529, 6); жаловали намъ тые жъ Витъбляне, што жъ дей ты ... кажешъ дей имъ ... дрова на послы возити и нетцовъ стеречы и въ ловы на медведя съ кажъдого дыму ходити (ИЮМ, II, 231, 1630).

**Нетихий** *прым. Буйны, свавольны.* если хто таковыѕ ласкавост моѕсеѡву ... светобливост давыдову, также и инные добрые стых приклады бꙋде прекладат, а сам бꙋде нетихиѕ, нетерпливыѕ немилосердныѕ ... наꙋчание то не барзо бꙋдет ѡвцом смачно и помочно (Зб. 255, 153б—154).

**Нетление** *наз. Нятленнасць; вечнасць, неўміручасць.* англъ реклъ еи. гсь с тобою. неземныи женихъ. але самъ штож всемоу освещеню гсь. штожъ чстое чистоты ѡцъ нетлѣния создатѣль и свободы податель (Чэцця, 156б); радуисѧ стителю николае. грѣзнъ доброплодныи. точа нѣтлѣния миру. радуисѧ архиерѣю хсвъ николае (Там жа, 197); Съхранение же закону еѧ ест совершение нетлениѧ, нетление же то чинить наиближшего къ гсдꙋ богу (Скар. ПБ, 10б); длѧ того сѧ, бовѣмѕ, вѕ пѣснѧх пѣсней, ѡградою заключенною и источникомъ запечатлѣннымъ, а въ цркoвномъ гимне, раемъ, възрастившимъ намъ, цвѣтъ нетленіѧ, называетъ (Карп., 30). *Параўн.* нетленость.

**Нетленный, нетленый** *прым. Нятленны; вечны, неўміручы.* пришол гсь ... в ризꙋ нетлѣннꙋю ѡболокая нас (Чэцця, 116б); они бо завреныхъ хранѧху сыновъ стыхъ твоих, ими же починало быти нетленное светло закона свету давано (Скар. ПБ, 28); ꙗко новорожденыѕ праве младенъцы словесное а нетленое млеко возлюбете (Зб. 261, 69); нашимъ очищеніемъ во Іѡрдани очищаетѕсѧ Хс, самъ чистъ бꙋдꙋчій и нетлѣненъ (Каліст, II, 290б); слава си ест ... не временная тленная мимотекꙋщая но вѣчная небесная нетлѣнная (Дыяр., 169); ѡблецы мене хсе моѕ нетлѣнною ризою твоею (Зб. 81, 252б);

мѣли есмо быт вси нетлѣнными, безгрѣшными (Зб. 752, 404); не фримарчъ же дочасными за вѣчныи, нетлѣнъными за тлѣнъныи (Зб. 82, 309).

**Нетленость** *наз. Тое, што і* нетление. ѡ ѡнос нетлености нашос пристоит мовить (Зб. 752, 285).

**Нетленый** *гл.* нетленный

**Нетолчоный** *дзеепрым. Не ачышчаны таўчэннем.* нетолчоного проса полбочки (КСД, 862, 1516).

**Нетоптаный** *дзеепрым. Неўтаптаны, неўтрамбаваны.* маютъ давати [до скар]бу господарского съ кождое службы по петдесятъ грошей ... овса бочку также повную безъ верха и нетоптаную (АВК, XIII, 345, 1640).

**Нетопырь, недопырь, нетопырь** *наз. Нетапыр, кажан.* дѧтла теже и нетопырѧ ... не имате ести (Скар. ДЗ, 31); з птаства ести не маете ... вдода тежъ и нетопыра (Біблія, 164); почали летат нетопыри такъ великии ꙗко голуби, ꙋ которих зꙋбы были ꙗко ꙋ члвка (Алекс., 28); межи иншими которие бог ѡткинꙋл ꙗко нечистые зверата был недопыр (Зб. 259, 116б); То сꙋть которыхъ зѕ птаства ести не маете: орла ... вдода тежь и нетопырѧ (Хран., 118б).

**Неторговый** *прым.* ◊ Н е т о р г о в ы й д е н ь — *дзень, у які не гандлююць.* где бы трафилосѧ комꙋ чиего слꙋгꙋ чоловека посмати ... в месте нашомъ где несꙋдовыѕ врѧдъ и неторгового днѧ ... таковому стороне жалобноѕ волно бꙋдеть вести где въсхочеть (Ст. 1588, 519).

**Нетравный** *прым. Які цяжка ператраўлівае, цяжка засвойвае ў працэсе стрававання.* запсованомꙋ[!] и нетравномꙋ жолꙋдкови пожитеченъ естъ полынъ, который его ѡтволожꙋеть и травнымъ чинитъ (Каліст, I, 126б).

**Нетрафне** *прысл. Неадпаведна, непадыходзяча; няўдала.* Нескꙋснѣ: Нетрафне, по простацкꙋ, недосвѣдчене (Бяр., 92).

**Нетрвало** *прысл. ад* нетрвалый. которыѕ порꙗдок быт не может без звирхности а послꙋшенства, звѣрхности без помочи бжое порожне и нетрвало (Стрыйк., 418).

**Нетрвалость** *наз. Нетрываласць, недаўгавечнасць; ненадзейнасць.* с посланіа еже ко евреом видимо, же тымъ взглѧдомъ ѡтмѣнность и нетрвалость сщенства аронова бываеt показована (Апакр., 100б); ѡвшемъ на короткост речеѕ тыхъ и нетрвалости ихъ на смерть и на сꙋдъ бжиѕ во ѡномъ высокимъ щастю своимъ помнꙗчи мовилъ (Пралог, 659).



**Нетрвалый** *прым. Нетрывалы, недаўгавечны; ненадзейны.* не хотѧчи такъ далей нетрвалых речій непотребне бꙋдовати, зычимо абы сѧ до тоеи згоды осторожнѣй и своими срѡдками, а дорѡгами пристꙋповало (Апакр., 14б); Згода ꙋчиненаꙗ межи ними, але нетрвалаꙗ (Бельск., 399); ꙗ ... длꙗ законꙋ стог, свѣта и роскошеѕ его марных и нетрвалых выреклѡмсꙗ (Стрыйк., 531б); частокрот кꙋсител безѕ жадное працы ... на высокость нетрвалое и ѡблоудное славы выноситъ (Карп., 9б); Животъ нетрвалыи, значитъ тотъ квѣтъ опалыи (Лям., 27).

**Нетрвожачийся** *дзеепрым. у знач. наз. Той, хто не трывожыцца, не непакоіцца.* хотѧй ѡднакій боль естъ кричачого и некрычачого, трвожачогосѧ и нетрвожачого (Мак., 61).

**Нетрвожливе** *прысл. Бязбоязна, бясстрашна.* Вамъ ѡт бга принѧвшим початокъ, и зезволившим вѕ таковой боури нетрвожливе зостати зѕ вѣрными людми мнѡгих православныхъ, добре слоуги вѣрныи (Апакр., 185б).

**Нетресеный** *дзеепрым.* **1.** *Неабкалочаны, неабтрэсены.* восъ техъ пошолъ того нетресеного садꙋ трести (КВС, 480б, 1552).

**2.** *Няўтрэсены, неўтрамбаваны.* маютъ давати [до скар]бу господарского, съ кождое службы по петдесятъ грошей, жита бочку ровную, безъ верха и нетресеную, овса бочку такъ же повную безъ верха и нетоптаную (АВК, XIII, 345, 1640).

**Нетроскливый** *прым. Беклапотны, бестурботны.* Ести, пити, безпечалный и нетроскливыи животъ вести (Каліст, II, 151).

**Нетрудно** *прысл. Няцяжка; лёгка.* Рек Трыщан: Што есть волѧ твоꙗ, а мнѣ того нетрудно (Трыст., 52); о плетки не мовлю, бо о тые нетроудно (Апакр., 168б); Нетрꙋдно было жидом ѡног цара на преслѣдоване хрстиꙗнов намовит (Бельск., 209); Гсдь ... ѡдлꙋчаеть смерть ѡд дши твоеи вѕ одной годинѣ (бо то емꙋ нетрꙋднѡ) и береть тебе на лоно свое (Мак., 243); ꙋчинитъ исусъ христосъ и тое чудо: бо то ꙋ него нетрꙋдно (Пралог, 614б); нетрꙋдно емꙋ обычай такій найти (Хран., 370).

**Нетрудный** *прым. Няцяжкі; лёгкі.* реклъ ми иже нетроудно ми ест дѣло твое (Арыст., 209); ижес молодыѕ а нетрꙋдныѕ живот ꙋдаешъ, вожа тобѣ потреба бꙋде (Зб. 82, 57б).

**Нетство, нество, нецство, нецьство** *наз. Тое, што і* нятство. Къ Кіевъскому воеводе Юрю листъ послалъ есми: уже два годы у нетстве седять (КЗ, 360, к. 1484); иванъ бгословъ ... пришол бо ѡт заточѣниꙗ с нества. с патома ѡстрова (Чэцця, 191); панъ Скиндѣрь повѣдилъ передъ нами, ижь того Степанца поймати казалъ ... и подати ключнику Ѡстрынскому;

ино дей ключникъ подалъ сторожомъ, и сторожи его впꙋстили зъ нецьства (КСД, 263, 1516); панъ ꙗнъ мене, въ дому поимавши, казалъ въ нетство ѡсадити (Там жа, 393); Татарскій маетъ быти каранъ нетствомъ подъ ратушою день а ночь (АЮЗР, I, 113, 1541); Тое нетство, с которого николи нихто не выходит, то такъ справлено всимъ, которых тут сажають (Трыст., 70); Тут Трыщанъ не вспоминалъ ничого, ѡдно Ижоту, а Ижота Трыщана, и тое имъ нецство было велми сладко (Там жа, 79); побежы*т* воиско Скир*г*аи*л*ово и побито и*х* много, а иных жывы*х* по*и*мано и в не*т*ство повели кн҃зе*и* и боꙗ*р* (Рач., 324). // *перан.* ѧ розꙋмъ и моѧ хоробрость ... ѡ*т* века госпо*д*ствовала есми сперва ѡ*т* первости земли: въ нѣтствѣ потоко*в* чс҃тнѣиши*х* во*д* (Зб. 262, 97).

**Нету** *безас. у знач. вык. Тое, што і* неть *у* 1 *знач.* во игрѣ бесовьскои помочи нѣтоу (Чэцця, 273б); навратив^sсѧ Рꙋвимъ ко кладезю не знаиде ѡ*т*рочати, и растерзав^s ризы прииде ко братии своеи и рече ѡ*т*рочати нетꙋ (Скар. КБ, 69); Богъ ... доводить иже ему ровнаго нетꙋ (Скар. КІ, 45); рекоу*т* же римлѧни. нетоу ганбы ц҃рю бывшю скоупꙋ до себе а щедръ до людей (Арыст., 140); аньгелъ, рекъ жонамъ, не бойтесе вы ведаю бо ижъ исуса розпѧтого ищѣте. Нету сезьде, всталъ бо ѧкъ рекъ (Цяп., 42б); Стогнутъ ѡ*т* сер*д*ца, але немашъ хтобы имъ допомоглъ, плачу*т* але нету хтобы ихъ ꙋтѣшилъ (Пралог, 552б); ва*м* то^s же и ѡди*н* ес*т* бг҃ъ, и на персонꙋ взглꙗдꙋ ꙋ него нѣту (Зб. 82, 271б).

**Неть** *безас. у знач. вык.* **1.** *Няма; адсутнічае; не існуе.* коли митрополита нѣтъ, или который владыка умерлъ на которой епископьи, и мы быхомъ какова намѣстника дрьжали по нашей воли, а доходъ церковный, митрополичій и епископьскый, собѣ быхомъ имѣли (АЗР, I, 37, 1415); поведалъ намъ, што дей детей въ него нетъ (КЗ, 397, 1483); Где нетъ воловъ тамъ суть ꙗсли празны (Скар. ПС, 22б); где волокъ еще нетъ, ино з дому два грошы (КПД, 593, 1557); нѣт на свете конѧ, которого бы ѡн не втекъ (Бава, 154); того не*т* ꙋ ѡбычаю абы мꙋ*ж* жоне которую повагꙋ ꙋказа*л* (Наб. тур., 23б); Не можетъ быти тамъ церковъ, гдѣ нѣтъ вѣры (Гарм., 189); нѣ*т* здоровѧ в тѣле моем ... нѣтъ ѡ*т*почин*к*у косте*м* мои*м* (Пс. XVII, 9). ◊ Н е т ъ в е д о м а — *невядома.* въ томъ ми чл҃вкъ згинулъ, нетъ ведома гдѣ (КСД, 7, 1510); дѣверъ мой, пришедши, нетъ вѣдома въ который способъ, вземши зъ рукъ у того священника Духовского Іосифа духовницу изодралъ (АЗР, III, 47, 1553); мужъ помененое Полонии нетъ ведома якою смертью в дому его з сего света зшолъ (АВК, XXIV, 414, 1584); Шымонъ Урбановичъ ... коровы зъ быдломъ посполитымъ занялъ и нетъ ведома за што пограбилъ (АВК, I, 246, 1612). *Параўн.* нету.

**2.** *Не дазваляецца, не дапускаецца; не можа быць.* къ тои реце никому прихода нѣтъ (АЗР, I, 27, 1399); колі хто прічиною оумре*т* а любо оутоне*т* а любо с древа спадѣть ѡ томъ не*т* жадное жалобы оу праве (Вісл., 24); по двꙋ годе*х* оуже и*м* дале*и* не*т* ліхвы жадное (Там жа, 28б).

**3.** *У знач. адм. часц. Не.* видиши ли прпо*д*бниче водоу. исходꙗщѧю ѡ*т* высоты горъ. онъ же ре*ч*. Нѣтъ господине мой (Чэцця, 12); пропозиціе, которые онъ твердитъ, которы*х* мы не признавае*м*, ꙗкобы зрейстрова*в*ши, если соуть правдиви, албо нѣтъ. оу особныхъ роздѣлехъ накшталтъ квестіи розложены*х* по*д*поры его оуважаючи, и свои противъ томꙋ притчаючи спираемо сѧ (Апакр., 5—5б); велце есть пожитечное Іерееви ѡное пытанье которое ѡ*н* звыклъ чынити пре*д* своими парафіѧны, ни*м* и*х* почнеть венчати, если бы комꙋ иньшомꙋ не шлюбовали, если бы еще живо*е* жоны не мѣлъ ма*л*жонокъ, албо малжонка мꙋжа, альбо тежъ если бы вонътпили, сꙋт^s ли жывыми, або нѣ*т*, понева*ж* в^s тако*и* вонтпливости бꙋдꙋчи*м* имъ, венчати и*х* не можетъ (Навука, 159—160).

**Нетяглый** *прым. Неабкладзены цяглавай павіннасцю, цяглом.* пни Ядвига ... подала ... двор ... з людми тяглыми и нетяглыми, и з бояры (АВК, XXXVI, 32, 1582).

**Неублаганый** *дзеепрым. Няўмольны, бязлітасны.* Видимо, по срокгомъ а праве неоублагано*м* гнѣвѣ, и долгой а праве нескончоной войнѣ, на приходъ преможного и добротливого Кролѧ (Каліст, II, 206б); Неѡ*т*реченный: Неоублаганый, твердый, тѧжкій, сꙋровый, срогій, ѡкрꙋтны*и*, неѡ*т*мовны*и* (Бяр., 96); всꙗкожъ неꙋжиты^s и неꙋблаганы^s, незбожны^s ѡны^s ѡбразобо*р*ца жадною мѣрою не да*л*сꙗ намови*т* (Пралог, 499); ѡнъ сроги^s а неꙋблаганы^s розгнѣва*л*сꙗ и добы*в*ши меча заби*т* мене хотѣлъ (Зб. 82, 46).

**Неубываючий** *дзеепрым. Які не ўбывае, не памяншаецца.* ꙗкож ... неоубываючи*м* богатство*м* есть доброчи*н*ность (Мак., 9б).

**Неубытый** *дзеепрым. Які не ўбудзе, не паменшыцца.* маешъ бовѣмъ милости невычерпаныи жродла, и жалова*н*ꙗ неоубытое море (Каліст, II, 146б); во а*л*тарꙋ ꙗко ска*р*бъ неꙋбыты^s мидоточивое тѣло тое свꙗтое положено (Зб. 752, 112).

**Неуважне** *прысл.* **1.** *Безразважна, неабдумана; неасцярожна.* за*ж*бы то незноснѣйша, по*д*писꙋ на злоую речь неоуважне

